незалежная газета

№ 20 (714) 25 мая 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Шоп-туры па Беларусі**

Старонка 9



**Цэны міністра Русага**

Старонка 10



**«Жыццё кароткае, краіна — вечная»**

Старонка 6



# Сусветны рэкорд дэвальвацыі

Улада абваліла рубель амаль на 60% за адзін дзень. Але і гэтага аказалася замала.




ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

23 мая Нацбанк афіцыйна прызнаў сваю капітуляцыю. Вячэрняе абвяшчэнне курсаў валют не стала нечаканасцю для насельніцтва, якое было гатовае да шокавага абвалу рубля насуперак абяцанням Пракаповіча і кампаніі. Кепскай навіной аказалася тое, што і 54,4-працэнтнай дэвальвацыі аказалася замала для вырашэння праблемы. Афіцыйны курс усё адно адстае ад курса чорнага рынку на 15—20%.

**Працяг на старонцы 8.**

**Сумны рэкорд**

Беларуская дэвальвацыя стала самай рэкорднай у найноўшай гісторыі. Яна абагнала эфіопскую 1992 года і аргенцінскую 2002-га. Гэтыя краіны ў свой час дэвальвавалі сваю валюту на 54%. Беларускі рубель за раз абясцэніўся на 54,4%. Наша краіна раней праводзіла разавую дэвальвацыю ў 1999 годзе, калі нацыянальная валюта была абясцэнена на 37%. А на пачатку 2009 года рубель быў дэвальваваны спачатку разава на 20, а пасля плаўна яшчэ на 10%.

Агулам ад 2008 года да сёння беларускі рубель абясцэніўся прыкладна на 130%. Для параўнання: украінская грыўня за той жа перыяд страціла толькі 60% сваёй вартасці да таго ж кошыка валют, а еўра, злоты, літ, лат і расійскі рубель захавалі сваю вартасць або падраслі.

**Сярэдні заробак беларусаў афіцыйна скаціўся да $317**

Новы курс даляра (4931 рубель) канчаткова паставіў тлусты крыж на марах пра $500-ны заробак. Апошнія статыстычныя дадзеныя па сярэднім заробку ў краіне датычаць красавіка. Тады беларусы зараблялі 1 563 393 рублі. Па цяперашнім курсе гэта складае $317. Заробкі ў краіне вярнуліся на ўзровень снежня 2006 года.

Калі ж лічыць па чорным курсе, то заробак складае $250.

## Размятай беларускае

Людзі ўкладаюць рублі ў што могуць.

Ля крамаў «Атланта» (халадзільнікі) і «Гарызонта» (тэлевізары) ў сталіцы чэргі ад раніцы да закрыцця.

«Я з васьмі тут стаю (салон «Атланта» на вул. Пушкіна ў Мінску адкрываецца а 10-й). Заняла чаргу для дзяцей, — кажа пенсіянерка. — Яны маладыя, ім трэба лядоўня... Самі ведаеце, што робіцца».

У чарзе да моманту адкрыцця крамы сабралася паўсотні чалавек. І гэта нягледзячы на тое, што «Атлант» зрабіў пераацэнку. Лядоўня, якая яшчэ пару дзён таму каштавала 1,4 мільёна рублёў, цяпер разлятаецца нават за 2 мільёны 270 тысяч!

**Працяг на старонцы 9.**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

## Нагадаем: Лукашэнка хоча зачыніць «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Рэакцыі чытачоў.

**Выходзьце, а мы падтрымаем**

Выходзьце, хлопцы, выходзьце, дзяўчаты, а мы падтрымаем, чым можам.

Ганьба тым ненавіснікам беларускага народа, інакш іх не назавеш, якія закрываюць «Нашу Ніву» і «Народную Волю». Вечная ганьба ў вяках!

**Чатыры пакаленні сям'і Ждановічаў, Мінск**

**Чым зможам — дапаможам**

Мы, сям'я з Брэста, у гэтыя нялёгкія месяцы для беларусаў хочам падтрымаць калектыў газеты. Нам яна патрэбная, чым зможам дапамагчы — дапаможам.

Будзем супраць закрыцця газеты гэтымі цяперашнімі ўладамі.

**Уладзімір Таруц, Брэст**

Працяг тэмы — **старонка 2.**

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміце Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

# «У працоўны час разгадвалі крыжаванкі, праглядалі часопісы мод або прымалі ежу»

## Ва ўсёй краіне праходзяць «андропаўскія» рэйды.

На шэрагу мінскіх прадпрыемстваў у працоўную суботу правяралі спісы супрацоўнікаў, паведамілі «НН» чытачы.

У Бабруйску невядомыя асобы ў цывільным перакрылі выхады з крамы «Віталюр» а палове на першую дня. У людзей пыталі, чаму тыя не на працы, бралі нумары працоўных тэлефонаў. У Гомелі правяральшчыкі наведалі мясцовы ЦУМ. У Глыбокім праверылі наведнікаў гандлёвага цэнтра «Арбіта», а ў Рэчыцы — магазіна «Юбілейны». У Віцебску, як і ва ўсёй краіне, трасуць школы — ці парадак у шафах? Ці прысутнічаюць педагогі на працоўным месцы пасля заняткаў? У Ветцы ў часе праверкі не далічыліся супрацоўнікаў мясцовага Дома культуры.

Ва ўсёй краіне праходзяць праверкі працоўнай дысцыпліны, якія з лёгкай рукі Лукашэнкі ўжо паспелі назваць «андропаўскімі». 6 мая, заслухоўваючы даклад аб ходзе расследавання абставінаў выбуху ў мінскім метро, Лукашэнка загадаў навесці парадак у арганізацыях і на прадпрыемствах, а таксама ўзмацніць працоўную дысцыпліну. Тады і прагучала прозвішча савецкага генсака. «У нас ёсць савецкая практыка часоў Андропава. Падабаецца гэта камусьці ці не, але прыкладна так мы павінны прымусіць кожнага працаваць», — заявіў Лукашэнка, даючы тым самым старт «андропаўскім» рэйдам.

Неўзабаве кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей заявіў пра ўсебеларускую праверку дысцыпліны і кадравай работы на прадпрыемствах.

Магчыма, да такіх дзеянняў улады, як і ў свой час Андропава, падштурхнула бязрадасная эканамічная сітуацыя ў краіне. Як калісьці ў СССР, ВУП расце, а адставанне ад краін Захаду пры гэтым толькі павялічваецца. Але фармальна новая кампанія выкліканая вынікамі праверак на Гродзеншчыне. Тут з 26 красавіка па 4 мая Камітэт дзяржкантролю ладзіў маніторынг стану працоўнай дысцыпліны.

«Парушэнні працоўнага распарадку выяўленыя на 57 прадпрыемствах і ў арганізацыях», — рапартуе «Гродзенская праўда».

У чым жа заключаліся парушэнні, за якія па выніках маніторынгу да дысцыплінарнай адказнасці былі прыцягнутыя 93 парушальнікі працоўнай дысцыпліны?

Праверкі выявілі, што людзі часта спазняюцца на працу. Больш за тое, у некаторых арганізацыях гэтая праблема робіцца хранічнай.

Маніторынг высветліў, як бавяць свой працоўны час супрацоўнікі прадпрыемстваў і арганізацый. «У працоўны час асобныя супрацоўнікі замест выканання сваіх службовых абавязкаў разгадвалі крыжаванкі, чыталі кнігі і газеты, праглядалі часопісы мод або прымалі ежу. Некаторыя наогул адсутнічалі на працоўных месцах без уважлівых прычын, а кіраўнікі не маглі патлумачыць, дзе знаходзяцца іх падначаленыя».

Праверка выявіла недахопы ў арганізацыі пропуску на тэрыторыі, якія ахоўваюцца: «Работнікі Камітэта дзяржкантролю беспераашкодна ўваходзілі на тэрыторыі, якія ахоўваюцца, і нават на рэжымныя аб'екты, а вартаўнікоў у гэты час увогуле не было на месцы».

«Мы гэта ўжо праходзілі».

«А ў хакей у працоўны час гуляць — правільна?» — такія злыя каментары з'явіліся на сайтах. Грамадства рэагуе на андропаўшчыну лукашэнкаўскага разліву раздражненнем і смехам.

«Цяпер жа час не той. Каго ты зараз змусіш з-пад палкі рабіць? Ёсць дзве Карэі: каторая з іх багатая?» — сказаў «Нашай Ніве» кіроўца крана з суседняй будоўлі.

**Сямён Печанко**

**Юрый Андропаў**

з лістапада 1982 па люты 1984 — генеральны сакратар ЦК КПСС. Да таго 15 год кіраваў савецкім КГБ.




**Віктар Лукашэнка, памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы, на выставе ўзбраенняў «Мілекс» у Мінску. 24 мая.**

## Сцісла

• **Мінскім анархістам пагражае ад 3 да 9 гадоў.** У аўторак у судзе над мінскімі анархістамі агучаныя патрабаванні пракурора. Ігару Аліневічу ён запрасіў 9 гадоў калоніі з канфіскацыяй. Мікалаю Дзядку — 6 гадоў. Аляксандру Францкевічу — 5 гадоў (усім тром — узмоцненага рэжыму). Яўгену Сілівончыку — 3 гады «хіміі». Максіму Веткіну — 4 гады «хіміі». Іх вінавацяць у кіданні «кактэйляў Молатава» ў расійскае пасольства, турму на Акрэсціна, казіно «Шангры-Ла» і яшчэ шэраг аб'ектаў у Мінску і Салігорску, арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам. Дзядок, Францкевіч і Аліневіч віны не прызнаюць, Веткін і Сілівончык — часткова.

• **Гродзенскія ўлады рэкламуюць беларускія класы.** Гукавая рэклама класаў з беларускай мовай навучання з'явілася ў гродзенскім транспарце. Яе размяшчэнню паспрыяла ўпраўленне адукацыі гарвыканкама.

• **Палітвязню Змітру Бандарэнку патрэбная аперацыя.** Паводле слоў яго жонкі Вольгі, гэта пацвердзіў доктар, які аглядаў палітвязня на Валадарцы. У Бандарэнкі — чатыры грыжы дыскаў пазваночніка.

• **Падаражэў праезд у мінскіх маршрутках.** Цана вырасла на 200 рублёў, да 2700.

• **Генпракуратура прапануе арыштоўваць маёмасць да завядзення справы.** Замацаваць у законе прапануецца забарону на здзелкі з маёмасцю, калі праваахоўнікі пэўныя, што гэты грамадзянін будзе абвінавачаным. Цяпер людзі, якім пагражае прысуд з канфіскацыяй, перапісваюць маёмасць на сваякоў.

• **У Мінску з'явіцца гатэль «Пекін».** Мінгарвыканкам зарэгістраваў прадпрыемства «Гасцініца Пекін—Мінск», якое збудуе пяцізоркавы гатэль. Ён мае паўстаць у раёне вуліцы Чырвонаармейскай на беразе ракі Свіслач да 2014 г. Будаваць «Пекін» будзе кітайская кампанія BUCC.

• **Вольскі і Пугач намалявалі карціны, каб выратаваць хворую дзяўчынку.** Музыкі, лідары гуртоў «Крамбамбуля» і «J: Морс», выставілі свае творы на інтэрнэт-аўкцыён Tut.by. Грошы, атрыманыя за іх продаж, пойдуць на лячэнне 4-гадовай Варкі Сташэўскай, хворай на рак.

**СМ**

## Самае чытанае на nn.by
### за 18 — 24 мая

1 Аблога крамы з лядоўнямі ў Мінску: відэа без каментароў

2 Разгромны сюжэт пра Беларусь на НТВ

3 Нацбанк падняў курс даляра да 4930 рублёў

4 Мядзведзеў ізноў «падкалоў» Лукашэнку

5 Някляеў і Рымашэўскі застаюцца на свабодзе

6 Умова крэдыту ЕўрАзЭС: Прыватызацыя беларускіх актываў на 9 млрд за 3 гады

7 Доступ да Prokopovi.ch абмяжоўюць

8 Адштурхнуліся ад дна? Курс чорнага рынку ўпершыню знізіўся — 5500 за даляр

9 Беларусь пабіла сусветны рэкорд па дэвальвацыі

10 Кіраўнік Мінсельгасхарча не лічыць цэны ў Беларусі высокімі



# БАЖ: Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Беларуская асацыяцыя журналістаў склала прыкладны ўзор звароту ў Мінінфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма закрыць «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск,*
*пр. Пераможцаў, 11.*

*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся дайнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.

# Ніжэй пояса ўсё засталося цэлым

Еўрасаюз пабаяўся накласці санкцыі.



Грыбаўскайце: «Недапушчальна біць ніжэй пояса, калі ў краіне складаная эканамічная сітуацыя».

Мінскія крамы пасля ажыятажу.

PHOTO.BYMEDIA.NET

23 мая Рада міністраў замежных спраў Еўрасаюза на пасяджэнні ў Брусэлі разглядала пытанне санкцый супраць лукашэнкаўцаў.

Еўрапейцы стаялі перад складаным выбарам. З аднаго боку, на рэжым Лукашэнкі ўздзейнічаюць толькі эканамічныя аргументы, словам ён увагі не надае. Прысуд Саннікаву Еўропа не магла пакінуць проста так. Лукашэнка таксама дазваляў сабе хамскія выказванні ў адрас еўрапейскіх чыноўнікаў (назваў Барозу «казлом»).

З другога боку, увядзенне эканамічных санкцый здольнае замарозіць адносіны Беларусі з ЕС на ўсіх узроўнях на доўгія гады. Лукашэнка ў адказ адсячэ апошнія нітачкі еўрапейскіх уплываў.

11 мая найвышэйшая прадстаўніца ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан заявіла, што адзіным магчымым адказам Еўрасаюза на дзеянні Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца ўвядзенне жорсткіх санкцый у дачыненні да яго і прадстаўнікоў яго рэжыму.

16 мая бельгійскае выданне EUobserver са спасылкай на свае крыніцы ў Брусэлі паведаміла, што ЕС вывучае магчымыя эканамічныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі. Адзначалася, у прыватнасці, што кіраўнікі пасольстваў краін ЕС у Мінску накіравалі ў Брусэль папярэдні спіс асоб і прадпрыемстваў, у дачыненні да якіх разглядаецца магчымасць увядзення новых абмежавальных мер. Сярод іх — дзяржканцэрн «Белнафтахім», група кампаній «Трайпл», кампанія «Белтэхэкспарт» і ААТ «Беларуськалій».

Новыя санкцыі, падкрэсліваў EUobserver, закліканы «ўдарыць па дзяржаўным бюджэце прэзідэнта Лукашэнкі, не прыносячы крызісу ў кволую эканоміку краіны».

Асабліва балючымі былі б санкцыі супраць «Беларуськалія». Гэта адна з асноўных крыніц валюты ў краіне, але ж уся яго прадукцыя цяпер экспартуецца праз Літву.

На справе ж выйшла ўсё крыху не так. Ніякіх эканамічных санкцый уведзена не было. Абмежаваліся толькі яшчэ трынаццаццю прозвішчамі невыязных чыноўнікаў. Відаць, пабаяліся, што санкцыі могуць канчаткова дабіць кволую беларускую эканоміку, і тады Расія можа накласці руку на ўсю беларускую ўласнасць.

Перад пасяджэннем у Брусэлі рашуча выказалася супраць эканамічных санкцый прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце. «Недапушчальна біць ніжэй пояса, калі ў краіне складаная эканамічная сітуацыя. Гэта наш сусед. Незалежна ад таго, падабаецца нам яго кіраўнік ці не», — кажа Грыбаўскайце.

Магчыма, неўвядзенне санкцый — гэта таксама вычэквальная рэакцыя на неабвяшчэнне прысуду па справе Статкевіча і Уса. Іхняе становішча ўсё яшчэ ў падвешаным стане.

У панядзелак прайшла інфармацыя, што Мінск можа наведаць італьянскі прэм'ер Сільвіа Берлусконі. Гэта адразу выклікала розныя гіпотэзы. Берлусконі мае прыяцельскія дачыненні з Пуціным. Раней італьянца неаднаразова называлі еўрапейскім пакравіцелем беларускага аўтакрата.

Тым не менш, пазней інфармацыю пра візіт Берлусконі абверглі, як у пасольстве Італіі, так і ў Міністэрстве замежных справаў.

«Калі эканамічныя санкцыі не ўвялі цяпер, то гэта не значыць, што іх не ўвядуць пазней», — кажа экс-кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі. На самай справе выглядае, што гэтая тэма яшчэ будзе ўздымацца.

**Зміцер Панкавец**

# Каміль Клысінскі: Патрэбен нулявы варыянт

Рашэнне Рады міністраў Еўрасаюза мы папрасілі пракаментаваць Каміля Клысінскага, адмыслоўца ў беларускіх пытаннях польскага аналітычнага Цэнтра ўсходніх даследаванняў.

**«Наша Ніва»:** Што азначае гэтае рашэнне? Еўрасаюз яшчэ спадзяецца аднавіць дыялог з беларускімі ўладамі?

**Каміль Клысінскі:** Яно азначае, што Еўрасаюз не адступае ад сваёй палітыкі. Вызваленне палітвязняў і спыненне рэпрэсій застаецца галоўным пытаннем.

**«НН»: Да эканамічных санкцый ЕС можа вярнуцца?**

**КК:** Абсалютна так. 23 мая прынялі кампраміснае рашэнне паміж рознымі групамі краін. Я не выключаю такой магчымасці, што краіны, якія выступаюць за больш жорсткія меры, могуць угаварыць іншыя дзяржавы.

**«НН»:** Ці магчымыя сёння перамовы з беларускімі ўладамі?

**КК:** Патрэбен нулявы варыянт. Пасля вызвалення палітвязняў садзіцца за стол перамоваў. Мне здаецца, што цяпер беларускія ўлады вельмі разлічваюць, што за кожнага вызваленага палітыка ім будуць плаціць грошы. Такога не будзе. Вызваленне палітвязняў — гэта толькі пачатак.

**Гутарыў ЗП**

## Новыя прозвішчы неўязных

**Меркуль Наталля** — дырэктар Талькаўскай сярэдняй школы (за звальненне па палітычных матывах настаўніцы гісторыі вышэйшай катэгорыі Наталлі Ільініч);

**Акуліч Святлана** — суддзя суда Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці (за адхіленне пазову Ільініч аб аднаўленні на працы);

**Пыкіна Наталля** — суддзя Партызанскага раёна (працэс Мікіты Ліхавіда);

**Мазоўка Сяргей** — пракурор (працэс Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава);

**Чацвярткова Наталля** — суддзя Партызанскага раёна Мінска (працэс Андрэя Саннікава, Іллі Васілевіча, Фёдара Мірзаянава, Алега Гнедчыка і Уладзіміра Яроменкі);

**Аляксандраў Дзмітрый** — суддзя Вышэйшага эканамічнага суда (працэс па закрыцці «Аўтарадыё»);

**Вакульчык Валерый** — начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі;

**Булаш Ала** — суддзя Кастрычніцкага раёна Мінска (працэс Паўла Вінаградава, Дзмітрыя Дразда, Алеся Кіркевіча, Андрэя Пратасені і Уладзіміра Хамічэнкі);

**Бароўскі Аляксандр** — дзяржаўны абвінаваўца суда Кастрычніцкага раёна Мінска (працэс Паўла Вінаградава, Дзмітрыя Дразда, Алеся Кіркевіча, Андрэя Пратасені і Уладзіміра Хамічэнкі);

**Сіманоўскі Дзмітрый** — дзяржаўны абвінаваўца суда Першамайскага раёна Мінска (працэс над Змітром Бандарэнкам);

**Брысіна Жанна** — суддзя Заводскага раёна Мінска (працэс Ірыны Халіп, Сяргея Марцалева і Паўла Севярынца);

**Жукоўскі Сяргей** — дзяржабвінаваўца суда Заводскага раёна Мінска (працэс Ірыны Халіп, Сяргея Марцалева і Паўла Севярынца).

**Шыкараў Уладзіслаў** — суддзя Чыгуначнага раёна Віцебска (выносіў абвінаваўчыя прысуды апазіцыянерам);

Цяпер у спісе амаль 200 прозвішчаў беларускіх чыноўнікаў розных узроўняў.

## Сцісла

• **Гайдукевіч заклікае перайсці на расійскі рубель.** Пра гэта гаворыцца ў прынятай 20 мая заяве ЦК Ліберальна-дэмакратычнай партыі, якая ў аўтарытарнай сістэме Беларусі займае ролю «канструктыўнай апазіцыі».

• **Абама пра Беларусь.** Дэмакратызацыя Беларусі і краін Паўночнай Афрыкі будзе адной з галоўных тэм бліжэйшага візіту прэзідэнта ЗША Барака Абамы ў Польшчу. Абама прыбудзе ў Варшаву 27 мая, дзе возьме ўдзел у саміце краін Усходняй і Паўднёвай Еўропы.

• **З'езд «Справядлівага свету».** 28—29 мая ў Доме культуры МТЗ пройдзе XV з'езд партыі левых «Справядлівы свет». Чакаюцца выбары старшыні, а таксама цэнтральнага камітэта. Посткамуністаў працяглы час узначальвае Сяргей Калякін.

**Алесь Пілецкі, ЗП**

# Віктар Івашкевіч: На сход!

Палітык Віктар Івашкевіч, адзін з заснавальнікаў новай партыі «Беларускі рух», выступіў з ініцыятывай правядзення 16 кастрычніка Усебеларускага сходу за адстаўку Аляксандра Лукашэнкі.

**«Наша Ніва»: Спадар Віктар, што гэта будзе?**

**Віктар Івашкевіч:** Гэта будуць сходы пад адкрытым небам, якія мы плануем правесці не толькі ў Мінску, але і ва ўсіх гарадах, дзе гэта толькі будзе магчыма. Нам трэба выпрацаваць механізмы, як ціснуць на ўладу, каб дамагчыся пераменаў. Натуральна, што асноўныя патрабаванні будуць сацыяльнымі, але і не трэба забываць пра палітычныя, без іх немагчымае развіццё краіны.

**«НН»: Чаму Вы гаворыце пра такі позні час, аж 16 кастрычніка, калі сітуацыя накаляецца ўжо цяпер — дэвальвацыя, рост цэнаў, столькі палітвязняў, газеты закрываюць? Можа, варта было б правесці яе раней?**

**ВІ:** Лічу, што вялікі сход трэба добра падрыхтаваць. Але будзем адсочваць сітуацыю.

**Гутарыў ЗП**

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

### Анархіст з турмы: «Дзякуй, «Наша Ніва»

Перш за ўсё хачу падзякаваць вам за тое, што вы робіце. Нягледзячы на звышцяжкія ўмовы беларускай рэчаіснасці, вы робіце газету, якая, на мой погляд, больш за ўсе беларускія выданні адпавядае назве «незалежная». Не «ліберальная» ці «апазіцыйная», а менавіта незалежная. Вы падымаеце шэраг пытанняў, якія ў іншых выданнях, у тым ліку апазіцыйных, нярэдка замоўчваюцца. Амаль усе 8,5 месяца, што знаходжуся за кратамі, я падпісаны на «Нашу Ніву».

Хацелася б падзякаваць за нейтральны і незаангажаваны артыкул і за тое, што падымаеце пытанне аб нашай справе на старонках «Нашай Нівы».

Усяго вам найлепшага!

Цяпер у Беларусі сем палітвязняў-анархістаў, і я хачу пажадаць ім: трымайцеся і зберажыце ў сябе тое святло, якое натхняла вас на барацьбу за справядлівасць! Таксама перадаю прывітанне ўсім палітвязням з сапраўды дэмакратычным светаглядам і чыстым сумленнем!

Нічога не бойцеся!

**Мікалай Дзядок, палітвязень, анархіст**

# У судзе над Някляевым — перапынак на два гады

**На працэсе лідараў «Гавары праўду» ўвагу прыцягнулі іх паказанні пра крыніцы фінансавання.**

20 мая суддзя Фрунзенскага суда Мінска Жанна Жукоўская (№ 153 у спісе неўязных у ЕС) абвясціла прысуды экс-кандыдатам у прэзідэнты Уладзіміру Някляеву і Віталю Рымашэўскаму, а таксама грамадскай актывістцы Насце Палажанцы і лідарам выбарчага штаба Някляева — Сяргею Вазняку, Андрэю Дзмітрыеву і Аляксандру Фядуту.

Уладзіміру Някляеву далі два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады, Сяргею Вазняку, Аляксандру Фядуту, Віталю Рымашэўскаму, Андрэю Дзмітрыеву — па два гады ўмоўна, Насце Палажанцы — год умоўна.

Прысуд быў толькі трохі мякчэйшы за патрабаванне пракурора Андрэя Кажэўнікава, які запрасіў для Някляева тры гады турмы з адтэрміноўкай у два гады, для Дзмітрыева — тры гады ўмоўна, Рымашэўскаму, Вазняку і Фядуту — па два гады пазбаўлення волі ўмоўна, Палажанцы — 1,6 года ўмоўна.

## Дзесяць дзён на лаве падсудных

Працэс «Някляева — Рымашэўскага» пачаўся 5 мая і цягнуўся больш за два тыдні. Яго фігурантаў судзілі па арт. 342 КК («Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх»). Максімальнае пакаранне паводле артыкула — тры гады пазбаўлення волі. Уладзімір Някляеў і Наста Палажанка сваёй віны не прызналі. Іншыя падсудныя часткова пагадзіліся з выстаўленымі абвінавачаннямі.

Суд «Някляева — Рымашэўскага» моцна розніўся ад іншых працэсаў па справе аб «масавых беспарадках». У першую чаргу, разняволенасцю падсудных, якія не хавалі свайго стаўлення не толькі да абвінавачанняў, але нават і да суддзі з пракурорам асабіста. Як заявіў на завяршэнні працэсу Віталь Рымашэўскі, «цяжка раздзяліць пагардлівае стаўленне да сістэмы ў цэлым і асобных яе прадстаўнікоў». Абвінавачаныя спазняліся на пасяджэнні (Рымашэўскі, Палажанка), чыталі кнігі пад носам пракурора Кажэўнікава і суддзі Жукоўскай (Вазняк, Фядута, Някляеў, Рымашэўскі, Дзмітрыеў — апошнія два выкарысталі працэс для актыўнага абмену літаратурай), малявалі (Палажанка), пісалі ў твітар і чыталі ЖЖ ды анлайны з працэсу (Дзмітрыеў, Фядута, Рымашэўскі). Апошні нават рызыкнуў падсілкавацца шакаладкай, за што ледзь не быў выдалены з лавы падсудных.

У сваю чаргу суддзя не задавольвала хадайніцтваў адвакатаў і абвінавачаных. Можна адзначыць адзінкавыя выпадкі станоўчых адказаў на просьбы. Напрыклад, дазволіла Някляеву ўставаць з лавы падсудных (у яго ўзніклі праблемы са спіной, і экс-кандыдат не мог вытрымаць дзень працэсу, не ўстаючы з месца), альбо выклік «хуткай» для А.Фядуты, якому стала дрэнна ў зале суда.

Працягласць працэсу можна патлумачыць вялікай колькасцю матэрыялаў справы (аж 29 тамоў), сведак (больш за чатыры дзясяткі), актыўным удзелам у працэсе саміх абвінавачаных і іх адвакатаў (Някляеў, Вазняк, Фядута, Дзмітрыеў актыўна падавалі хадайніцтвы і давалі дадатковыя тлумачэнні, задавалі пытанні сведкам).

Матэрыялы таксама ўтрымлівалі шмат відэа. У асноўным — вынікаў «відэафіксацыі» спецслужбаў. Прычым не толькі з Плошчы, але і з сустрэчаў Някляева і яго давераных асобаў з выбарцамі падчас кампаніі. З відэа ў абвінавачання выйшаў правал — далёка не ўсе файлы асістэнт суддзі змог запусціць на абсталяванні Фрунзенскага суда, а тыя, што запусціліся, часам супярэчылі паказанням сведкаў-міліцыянтаў.



Адразу на ганку суда Някляеў даў першыя інтэрв'ю. Злева ад яго — Аляксандр Фядута, справа — Андрэй Дзмітрыеў.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Прыкладам такога абвяржэння можа быць відэасюжэт «Нашай Нівы» аб нападзе на калону Някляева. У прыватнасці, ясна было відаць, што супрацоўнікі ДАІ не патрабавалі паказаць ім змесціва мікрааўтобуса, як сцвярджалі ў паказаннях, а проста заступалі дарогу някляеўцам. Пасля прагляду адвакаты загаварылі аб ілжэсведчаннях супрацоўнікаў ДАІ, аднак суддзя адхіліла ўсе хадайніцтвы. Патлумачыла гэта тым, што эпізод са збіццём Някляева так і не быў далучаны да справы.

Дарэчы, даішнікі, якія спынялі калону Някляева на Калектарнай і сведчылі на працэсе, у судзе прызналі, што «людзьмі ў чорным» былі супрацоўнікамі спецпадраздзялення міліцыі. Між тым, датычнасць міліцыі да нападу на Някляева публічна абвяргаў міністр МУС АнатольКуляшоў.

## Грошы «Гавары праўду»

Суд над Някляевым, Рымашэўскім і іх паплечнікамі мог бы стаць паўтарэннем іншых працэсаў. Са сведкамі-спецназаўцамі і даішнікамі, што цвердзілі пра прарыў ланцуга на Кастрычніцкай. Аднак спробы следства высветліць крыніцы фінансавання кампаніі «Гавары праўду» ледзьве не ператварылі гэты суд у сапраўдны «шпіёнскі» працэс.

Пракурор Андрэй Кажэўнікаў ад самага пачатку спрабаваў развіць тэму кампаніі «Гавары праўду». Аднак яго спробы разбіваліся аб нежаданне падсудных атаясамляць «ГП» з выбарчай кампаніяй Някляева. «Пытанні, датычныя дзейнасці «Гавары праўду», не датычаць нашай справы», — у адзін голас цвердзілі Някляеў, Дзмітрыеў, Вазняк і Фядута.

Прадстаўніку дзяржаўнага абвінавачвання заставалася толькі чытаць матэрыялы справы і агучваць паказанні абвінавачаных, дадзеныя падчас следства. А тых паказанняў лідараў «Гавары праўду» было шмат. У тым ліку і аб фінансаванні кампаніі. Пракурор апісваў замежныя сустрэчы кіраўнікоў «Гавары праўду» з грантадаўцамі (на тэрыторыі Літвы і Польшчы), спосабы дастаўкі грошай у Мінск (праз літоўска-беларускую мяжу) і нават называў канкрэтныя сумы.

У прыватнасці, па версіі абвінавачання, на дзейнасць кампаніі «Гавары праўду» донары выдаткавалі каля 4,5 мільёна даляраў. У якасці арганізатара дастаўкі грошай фігураваў Сяргей Вазняк, якога вінавацілі таксама і ў ілжэсведчанні (арт. 401). Справа з ілжэсведчаннямі Вазняка таксама была звязаная з грашыма. Яшчэ ўвосень у жыхара Брэста, якога абвінавацілі ў падпале кватэры ў Мінску, міліцыя знайшла буйную суму валюты. У згаданай кватэры жыла знаёмая Вазняка, а на допытах затрыманы берасцеец заявіў, што скраў гэтыя грошы адтуль, бо хацеў забраць іх у апазіцыі і тым самым дапамагчы ўладам. Следства вінаваціла С.Вазняка ў тым, што падчас размовы са следчым па справе падпалу кватэры ён нічога не сказаў пра грошы. Варта дадаць, што ў выніку па 401-м артыкуле Сяргея Вазняка апраўдалі.

Аднак кульмінацыяй «раскрыцця змовы» пракурорам стала дэманстрацыя партрэтаў таямнічых «донараў». Гэтыя партрэты былі намаляваныя спецыяльнымі мастакамі ў СІЗА КДБ па вусных апісаннях Фядуты, Дзмітрыева і Вазняка і павінны былі адлюстроўваць двух незнаёмцаў, поўных імёнаў якіх абвінавачаныя следчым назваць не змаглі. Варта заўважыць, што партрэты мелі вельмі ўмоўнае падабенства, а іх дэманстрацыя пракурорам (на вялікім экране) толькі ўсхвалявала абвінавачаных. Фядута нават заявіў, што не хоча больш прысутнічаць на працэсе. «Прашу выдаліць мяне з залы за непавагу да суда», — паведаміў ён.

## Мяккі прысуд

Андрэй Саннікаў, якога судзілі ў той самы час, быў асуджаны на пяць гадоў калоніі, а для Статкевіча і Уса пракурор запрасіў восем і сем гадоў пазбаўлення волі адпаведна. Таму пасля таго, як пракурор Кажэўнікаў запатрабаваў для ўсіх умоўныя тэрміны, абвінавачаныя ўздыхнулі з палёгкай. «Я рыхтавалася да турмы. Нават апошнюю прамову ў зале суда загадзя напісала, сыходзячы з гэтага. Зараз прыйдзецца перапісваць», — жартавала Наста Палажанка пасля завяршэння судовых спрэчак.

Апошнія выступы абвінавачаных былі падобныя да выступаў з трыбуны Плошчы.

Віталь Рымашэўскі гаварыў пра Бога і адказнасць перад Ім.

Наста Палажанка прызнавалася ў каханні да палітвязня Зміцера Дашкевіча.

Аляксандр Фядута пабяцаў наступны раз весці людзей на Плошчу «па тратуарах».

Андрэй Дзмітрыеў публічна папрасіў прабачэння за свой «вымушаны выступ па БТ».

Уладзімір Някляеў быў нечакана лаканічным і ў апошняй прамове паўтарыў сваё нежаданне прызнаваць віну. «Мяне судзяць за тое, што я дамагаўся свабодных, справядлівых, дэмакратычных выбараў. Я гатовы прызнаць віну ў тым, што свабодных, справядлівых, дэмакратычных выбараў дамагчыся не змог. Мяне судзяць за Плошчу. Я гатовы прызнаць віну ў тым, што не дайшоў да яе. Калі прысуд мне будзе вынесены за гэта, я прыму яго. Ні ў чым іншым я не вінаваты і не прыму ні за што іншае аніякага прысуду, апроч апраўдання!» — такімі былі апошнія словы Някляева ў судзе.

Сустракаць асуджаных на ганку суда прыйшло каля трох сотняў чалавек. Ні ахова будынка, ні міліцыя ў праваядзенне невялікага мітынгу, які зладзіў Някляеў адразу пасля вызвалення, не ўмешвалася. Экс-кандыдат, які ўпершыню за пяць месяцаў змог выступіць перад публікай, заявіў аб намеры дамагацца вызвалення ўсіх палітвязняў, а таксама падзякаваў ЕС і ЗША за цвёрдую пазіцыю ў дачыненні да беларускіх уладаў.

Праз два гады экс-кандыдату Някляеву зноў прыйдзецца наведаць будынак суда Фрунзенскага раёна сталіцы. Суд будзе разглядаць, пакінуць яго на свабодзе альбо пазбавіць яе — менавіта такую працэдуру прадугледжвае пакаранне, прызначанае суддзёй Жаннай Жукоўскай.

**Алесь Пілецкі**

---

**Някляеў прапануе ўладам дыялог**

Нягледзячы на тое, што здарылася ў дзень прэзідэнцкіх выбараў, каманда Уладзіміра Някляева прапаноўвае ўладам дыялог.

Пра гэта экс-кандыдат у прэзідэнты Някляеў заявіў 23 мая на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле яго слоў, неабходна вызначыцца з фарматам перамоў і «паспрабаваць разам выбрацца з сённяшняй сітуацыі».

Някляеў лічыць, што засталося каля паўгода «да сацыяльнага выбуху». «Неабходна ствараць стабілізацыйную сацыяльную праграму. Тут ёсць над чым падумаць. Вырашаць, што рабіць з гуманітарнай дапамогай. Думаю, яна нам спатрэбіцца», — сказаў ён.

Паводле меркавання палітыка, улада будзе вымушана пайсці на саступкі сваім апанентам, у тым ліку замежным. «Шаснаццаць гадоў ва ўлады было дастаткова грошай, якія дазвалялі адстойваць свае ўмовы дзейнасці. Сёння сітуацыя такая, што ёсць толькі траціна сродкаў, неабходных для нармальнага жыцця краіны, якія зарабляе сама эканоміка Беларусі», — мяркуе Уладзімір Някляеў.

**БелаПАН**

# Ус: У мяне проста ёсць ідэя

Экс-кандыдат у прэзідэнты гатовы да турмы і верыць у хуткія перамены.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пракурор Кірыл Чубкавец запатрабаваў для экс-кандыдата ў прэзідэнты сем гадоў турмы. Дзмітрый Ус прыйшоў у Ленінскі суд сталіцы з сумкай з рэчамі, ён ужо быў падрыхтаваны да зняволення. Аднак на мінулым тыдні прысуд так і не абвесцілі, бо суддзя Людміла Грачова «захварэла».

Кватэра Уса знаходзіцца ў доме побач з Адміністрацыяй прэзідэнта. Карэспандэнты «НН» заспелі яго за партыяй у шахматы з сябрам. Ус кажа, што гэта адзін з любімых спосабаў бавіць вольны час.

**«Наша Ніва»: Мы з Вамі сустракаліся для гутаркі ў кастрычніку. Тады думалі, што падзеі будуць развівацца менавіта так?**

**Дзмітрый Ус:** Што да эканамічнай сітуацыі, то ведаў, што ўсё ў завале яшчэ тады. Тым не менш, думаў, што Лукашэнка зробіць большы націск на эканоміку, а не на ганенне апанентаў. Партыя ж пачала складвацца не зусім так, як я чакаў. Гэта як у шахматах.

**«НН»: Што адбылося 19 снежня?**

**ДУ:** Людзі выйшлі з пратэстам, патрабуючы новых выбараў. Каб у выбарчых камісіях сядзелі незалежныя людзі, якія б незаангажавана лічылі галасы. Па самых сціплых падліках, на Плошчы было 30—40 тысяч чалавек. Я не быў на мітынгу на плошчы Незалежнасці. Потым даведаўся, што Саннікаў і Статкевіч хацелі нейкіх перамоваў з уладамі. Не ведаю, навошта ім тое было трэба, бо ўлада з імі гаварыць не хацела. Было пабіта некалькі вокнаў і дзвярэй. Была экспертыза бутэлькі з нейкай вадкасцю. Высветлілі, што гэта вада. Гэта даказвае, што ўсё было падкінута. Цікава, што нібыта 40 амапаўцаў атрымалі траўмы, але ніводнага чалавека, які іх збіваў, не было затрымана. Хаця на Доме ўрада стаяць камеры назірання. Пракурор адмовіўся далучаць відэа з іх да справы. Была сфабрыкаваная справа, каб абвінаваціць кандыдатаў у тым, што яны не рабілі.

**«НН»: А план у кандыдатаў быў?**

**ДУ:** Канкрэтнага плана не было, ці, можа, я пра яго не чуў. У мяне не быў іншы сцэнар. Не хачу казаць які. Але ініцыятыву перахапіў Саннікаў. Ён павёў людзей туды, куды лічыў патрэбным.

**«НН»: Калі Вас затрымалі?**

**ДУ:** Да мяне прыехалі а другой ночы. Палкоўнік КДБ сказаў, што мяне трэба тэрмінова дапытаць у сувязі з беспарадкамі. Мяне пасадзілі ў камеру ў «амерыканцы», адкуль неаднаразова выклікалі на допыты. Мне казалі, што мой бізнес будзе знішчаны, сам я сяду ў турму, калі не дам паказанні супраць Статкевіча, што ён арганізоўваў масавыя беспарадкі. Зноў адвялі ў камеру, дзе загадалі падумаць. Са мной неафіцыйна размаўляў намеснік Зайцава, не магу ўспомніць прозвішча. Пяць разоў за ноч дзёргалі. Тым не менш, я сказаў, што нікога абвінавачваць не буду. Як я магу нагаворваць на чалавека, які не рабіў гэтага?

**«НН»: На БТ 20 снежня была агучаная Ваша заява…**

**ДУ:** Выдзернулі з камеры. Мне сказалі, што пытанне пад кантролем прэзідэнта, што збітыя амапаўцы, пабітыя вокны. Запыталіся, як я стаўлюся да гэтых дзеянняў. Сказаў, што, натуральна, адмоўна. План мітынгу ў гэтым не быў. «Вы ад сябе заявіце, што негатыўна ставіцеся наконт АМАПа і вокнаў», — было прапанавана. Я згадзіўся. Я падпісаў два-тры сказы. На БТ ж было агучанае зусім іншае. Мяне прасілі выступіць на тэлебачанні, але я адмовіўся.

**«НН»: Пасля той заявы думалі, што ад Вас адчэпяцца?**

**ДУ:** Ды не. Мне ясна сказалі, што пайду па справе са Статкевічам. Пытанне было толькі ў тым, ці сведкам, ці абвінавачаным. На мяне ціснулі цэлы дзень. Пасля вызвалення мяне некалькі разоў выклікалі на размовы, але ўжо прапановаў даць паказанні на Статкевіча не было.

Апазіцыя не да канца разумее важнасці зменаў у выбарчым заканадаўстве. Няма справядлівага падліку галасоў. Хлусяць апазіцыі, выбарцам. Улада не зацікаўленая ў зменах, бо яна губляе кантроль. Калі б я быў такі, як Цярэшчанка, Рымашэўскі ці Раманчук, то мне б далі два гады ўмоўна і адчапіліся. Я ж прапаноўваю супрацьстаянне сістэмы на сістэму. Толькі так яе можна перамагчы.

**«НН»: Выказваецца меркаванне, што Вам помсцяць за фінансаванне Статкевіча.**

**ДУ:** Тут не ў Статкевічу справа. Хоць Статкевіч і самы прасунуты апазіцыянер, які зразумеў неабходнасць змены выбарчага заканадаўства. Калі яго не змяніць, то будуць рабіць з нас дурняў да той пары, пакуль Коля [Лукашэнка] не прыйдзе да ўлады. З восені пачынаем збор подпісаў аб змяненні выбарчага заканадаўства. Пачнецца рух. Я планую сабраць мільён подпісаў. Данесці сітуацыю да людзей.

**«НН»: А калі апынецеся ў турме?**

**ДУ:** Значыць, будуць нейкія іншыя мае даверанныя людзі. Яны ёсць, але яшчэ не паказаліся. Дамоўленасці існуюць, трэба пачынаць. Думаю, калі нас пасадзяць, то Еўропа ўвядзе эканамічныя санкцыі.

**«НН»: Які ў Вас прагноз адносна суда?**

**ДУ:** Які тут можа быць прагноз? Суддзі і пракуроры — гэта пешкі. Усё залежыць ад таго, з якой нагі ўстане Лукашэнка, хто падасць [яму] інфармацыю. Чаму цяпер адкладаецца вырак? Хутчэй за ўсё, баяцца прагадаць. Я думаю, што на наступных выбарах Лукашэнкі не будзе, бо сітуацыя ў эканоміцы крытычная. Дзе вы бачылі, каб бульба каштавала па 3 тысячы за кілаграм? У палітыцы таксама ніводная цывілізаваная дзяржава з намі размаўляць не хоча. Людзі, якія яго падтрымліваюць цяпер, праз два-тры гады будуць лаяць. Ён зрабіў грамадства спажыўцоў. Людзі не прывыклі працаваць, а звыкліся сядзець і атрымліваць грошы. А зараз гэтая лавачка прыкрыецца. І людзі пачынаюць «часаць тыкву», бо яны не прывыклі да такога.

**«НН»: Ваш бізнес дзейнічае яшчэ?**

**ДУ:** Не, давялося распусціць. Тут галава баліць па іншым. Да турмы трэба рыхтавацца.

**«НН»: Вы да турмы гатовыя?**

**ДУ:** За ідэю гатовы пакутаваць. Лічу, што яна разумная, граматная. Што б ні здарылася, я яе не адракуся. Трэба даводзіць яе да канца. Каб нашы беларусы былі абароненыя законам і бюлетэнямі. Людзі не ведаюць, хто іх дэпутаты. Калі я вылучаўся на Асаналіева, то людзі мне расказвалі, што шукалі Гайдукевіча ўсе чатыры гады. І не маглі знайсці, каб вырашыць лакальныя праблемы. Хутчэй за ўсё пасадзяць, ці зробяць так, каб не мог вылучацца ў дэпутаты.

**«НН»: Як гэта адчуваць, што апошнія дні знаходзішся дома, а потым можаш на доўгі час апынуцца на нарах?**

**ДУ:** Вы ведаеце, я ляжаў у рэанімацыі шмат разоў. Я бачыў столькі смерцяў... У мяне проста ёсць ідэя. Не важна, дзе спаць. Галоўнае, каб дух не быў зломлены. Не хачу, каб беларусы былі рабамі.

**«НН»: Думак пра ўцёкі не было?**

**ДУ:** А сэнс? Я не лічу сябе вінаватым. Якая гэта свабода — уцякаць ад сваіх родных, ад народа? У мяне тут сваякі, сябры. Мне гэта не трэба. Няхай бяжыць той, хто гэта робіць. Цяпер сачэнне меншае, дужа не відаць. Мусіць, якраз і чакаюць, каб я ўцёк.

**«НН»: У Вас не вельмі моцнае здароўе. Турма ж нікому здароўя не дадае.**

**ДУ:** Калі ў беларусаў няма здаровых, то інвалід будзе абараняць іх правы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

---

**Дзмітрый Ус**

нарадзіўся 10 чэрвеня 1971 у Мінску. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта. Беспартыйны. Жанаты, выхоўвае сына. Працаваў рабочым на заводзе «Інтэграл» у Мінску, пазней — у сферы будаўніцтва. З 1992 — дырэктар выдавецтва «Трывіум». У 1999—2003 быў дэпутатам Мінскага гарадскога савета, затым на выбарах у 2003 і 2007 яго не зарэгістравалі. У 2010 браў удзел у выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў, але прайграў, набраўшы, паводле звестак Ярмошынай, 33% галасоў.

Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах у снежні 2010. Затрыманы ў Мінску ў ноч з 19 на 20 снежня пасля масавай акцыі пратэсту. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Днём 20 снежня выпушчаны адтуль пад падпіску пра нявыезд. Доўгі час з’яўляўся падазраваным па справе аб масавых беспарадках. Абвінавачванне па артыкуле 293 КК прад’яўлена 18 сакавіка 2011 (арганізацыя масавых беспарадкаў).

# «Жыццё кароткае, краіна — вечная»

**Так сказаў у апошнім слове Яўген Васьковіч, якога пасадзілі на сем гадоў за падпал дзвярэй Бабруйскага КДБ.**

Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенку і Паўла Сырамолатава абвінавачвалі ў падпале будынка бабруйскага аддзялення КДБ (частка 2 артыкул 339 Крымінальнага кодэкса — «Асабліва злоснае хуліганства»). Ім пагражала ад 7 да 12 гадоў турэмнага зняволення. 18 мая суддзя бабруйскага суда Павел Карцінін асудзіў трох хлопцаў на 7 гадоў. Прычым у калоніі строгага рэжыму.

Першае пасяджэнне бабруйскага суда па справе падпалу мясцовага будынка КДБ адбылося 5 мая і магло б выпасці з-пад увагі праваабаронцаў і журналістаў, каб не маці Яўгена Васьковіча. Менавіта Рушання Іванаўна, як магла, расказала пра першы дзень суда над юнакамі. Тады ў зале суда не было ні журналістаў, ні праваабаронцаў — часу суда не ведаў ніхто. Другое ж пасяджэнне 17 мая суддзя Павел Карцінін адкрыў пытаннем да прысутных: «Чаму такая цікавасць да гэтай хуліганскай справы?» Зала бабруйскага суда была цалкам запоўненая сваякамі, сябрамі, журналістамі і праваабаронцамі. Людзей прыйшло больш за 20 чалавек. Фота- і відэаздымкі падчас працэсу былі забаронены суддзёй.

Па эмацыйным стане суддзі было відаць, што шараговая «хуліганская справа» мае не зусім звычайны падтэкст. Увогуле, такія дзёрзкія напады на будынкі спецслужбаў, зафіксаваныя ў 2010 годзе, былі, бадай, у Беларусі першымі ад 1950-х гадоў. Яны мелі хутчэй сімвалічны характар, але сам факт іх адлюстроўвае рост сацыяльнай напружанасці і стаўленне да спецслужб.

Яўген Васьковіч ад пачатку працэсу прамаўляў па-беларуску. У суд ён з'явіўся ў майцы з надпісам «Жыве Беларусь!» і бел-чырвона-белым сцягам. Васьковіч — перакананы праціўнік існуючай улады. Ён мае нацыянальныя і анархісцкія погляды адначасова.

Яўген Васьковіч — з Бабруйска. Яго затрымалі 17 студзеня ў Магілёве на наступны дзень пасля ўдзелу ў акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Куляшова хлопец завочна вучыўся на журналісцкім аддзяленні філалагічнага факультэта. Ён падпрацоўваў у недзяржаўнай газеце «Бабруйскі кур'ер», якая тады яшчэ выходзіла. Называў сябе прыхільнікам створанай партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. Быў удзельнікам Плошчы-2010. Адседзеў 12 сутак на Акрэсціна.

Пра двух астатніх фігурантаў справы вядома менш. Арцём Пракапенка — з Гродна. У Бабруйску ён вучыўся. Ён не хавае сваёй прыхільнасці да анархісцкага руху. Павал Сырамалотаў — з Бабруйска. Да ніякіх рухаў і суполак ён сябе не прылічаў.

Усе трое абвінавачаных прызналі сваю віну, але не пагадзіліся з памерам матэрыяльнай шкоды.

Свае дзеянні яны паўтарылі праз тры дні пасля затрымання — 20 студзеня ў часе следчага эксперыменту, усё фіксавалася на відэа («НН» №19).

Адказваючы на пытанне следчых аб мэце акцыі падчас следчага эксперыменту, Васьковіч каротка адказаў: «Запалохаць КДБ і выказаць свой пратэст». Арцём Пракапенка мэтай акцыі назваў салідарнасць з анархістамі, якіх затрымалі ў Мінску па факце спробы падпалу амбасады Расійскай Федэрацыі (сам падпал адбыўся 30 жніўня, арыштавалі падазраваных 3 верасня). Тое самае хлопцы паўтарылі і ў судзе. Толькі Павел Сырамалотаў не змог дарэчна патлумачыць свае дзеянні, ён ахарактарызаваў іх як хуліганства. У сваім апошнім слове



LARCHANKA.LIVEJOURNAL.COM

Яўген Васьковіч не раскаяўся ў сваім учынку. Фота перад арыштам.

Яўген Васьковіч сказаў: «Жыццё кароткае, Радзіма — вечная!», пасля тройчы паўтарыў: «Жыве Беларусь!»

У судзе было таксама паведамлена, што на флэш-дысках, вынятых у Васьковіча, сустракалася слова «падпал», а таксама тэксты дакумент аб прынцыпах партызанскай барацьбы. Васьковіч на судзе сказаў, што гэтыя словы можна было знайсці дзе заўгодна, хоць бы ў СМІ, а дакументаў аб партызанскай барацьбе на яго тэхніцы не было.

Усе трое хлапцоў на судзе заявілі аб тым, што падчас следства давалі паказанні пад ціскам следчых. Пракапенка і Сырамалотаў тлумачылі гэта псіхалагічным ціскам, затрыманнямі і нечаканым абмежаваннем волі. Васьковіч казаў пра тое, што следчыя напросту хацелі хутчэй давесці справу да суда.

Пракапенка і Сырамалотаў пацвердзілі ў судзе, што раскайваюцца ва ўчыненым. Васьковіч жа на працэсе 17 мая адмовіўся ад свайго пакаяння, сказаўшы, што пасля падзей 19 снежня ўпэўніўся, што зрабіў усё правільна, а паміж КДБ і гестапа няма ніякай розніцы. Суддзя такога аўна не чакаў.

**Сяргей Гудзілін**
**Бабруйск—Мінск**

**Калонія строгага рэжыму**

адрозніваецца ад іншых папраўчых установаў больш жорсткімі ўмовамі ўтрымання — скарочаным часам на адпачынак і знаходжанне на свежым паветры, жорстка рэгламентаваным раскладам дня, меншай колькасцю сустрэч і прадуктовых перадач. Прызначаецца для адбыцця пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі за асабліва цяжкія злачынствы.



Суддзя не дазволіў здымаць у зале суда.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Каментар**

## Чаму яны баяцца Васьковіча

Піша **Сяргей Дубавец**.

Вось думаю, хто з паважаных мною знаёмых не марыў бы спаліць бабруйскі кагэбэ (і ўсе астатнія кагэбэ на свеце)? Сімвал акупацыі, русіфікацыі і нераскаянасці сталінскіх забойцаў. Няма ў мяне такіх знаёмых.

Ясна, што да тэрарызму і нейкай рэальнай шкоды гэтыя мары ніякага дачынення не маюць. «Хлопікі»-інтэлігенты здольныя хіба што на сімвалічныя акцыі. Заявіць пра сябе, можа быць, папалохаць. Але ў людзей з крымінальнымі мазгамі гэты нумар не праходзіць. Там палохаць не прынята. Дастаў зброю — страляй. Паказаў нож — рэж. Крымінальныя мазгі разумеюць толькі адну ўмоўнасць — умоўна датэрміновую.

Лепшыя з нас, натуральна, не крымінальнікі. Лепшыя з нас — «хлопікі»-інтэлігенты. Лепшыя з нас станіліся жыць у калоніі, у другасным паветры расейскай правінцыі, бо іх таленты і любоў да Радзімы ўвесь час натыкаюцца на каланіяльную адміністрацыю, расейскую бюракратыю і гэты самы эфэсбэшны кагэбэ.

Яўген Васьковіч стаміўся і пайшоў на сімвалічную акцыю — «падпал» бабруйскага кагэбэ. Суддзя ўляпіў яму за гэта сем гадоў страгача. Крымінальныя мазгі не пераварваюць умоўнасцяў. Дастаў кодэкс — умаж.

Сябры мае, мы сапраўды перайшлі рубікон. І рэч не ў валюце, не ў кантрактах і нават не ў Лукашэнку. Рэч у тым, што квітнеючая Беларусь — насамрэч забітая афрыканская калонія, дзе ў зонах сядзяць «хлопікі»-інтэлігенты, а ў акадэміях і тэлевізіях — крымінальнікі. І чым далей, тым больш выразным робіцца гэты расклад.

У свой час тэрарыстка Мазанік атрымала ўсесаюзную пашану за тое, што забіла гаўляйтара Кубэ. Уяўляеце, што б з ёй было, калі б яна толькі сімвалічна падсмаліла дзверы ў Кубавым доме? Думаю, гадоў сем канцлагера ёй бы і ўляпілі.

Цана забойства — усенародная пашана і цана метафары — сем гадоў турмы.

Кажуць, улада моцная, калі яна міласэрная. Крымінальнай уладай кіруе не міласэрнасць і не логіка, а толькі — страх. Такая ўлада не ўмее мысліць абстрактнымі катэгорыямі і больш за ўсё баіцца метафар. Вось чаму суддзя Карцінін, можа быць, не ўсвядомлены, але паўнапраўны прадстаўнік каланіяльнай адміністрацыі, за метафару дае больш, чым іншы раз за забойства.

# Палітвязні

## Асуджаныя па крымінальнай справе «Масавыя беспарадкі» за Плошчу


Саннікаў Андрэй — на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Парфянкоў Васіль — на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, пераведзены ў папраўчую калонію №8, Орша.


Ліхавід Мікіта — на 3,5 года пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, пераведзены ў папраўчую калонію ў Наваполацку.


Мацукевіч Віталь — на 3 гады калоніі строгага рэжыму.


Атрошчанкаў Аляксандр — на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, пераведзены ў папраўчую калонію №3 «Віцьба».


Новік Зміцер — на 3,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму, пераведзены ў папраўчую калонію №17 у Шклове.


Малчанаў Аляксандр — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, пераведзены ў папраўчую калонію №15 у Магілёве.


Васілевіч Ілья — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Мірзаянаў Фёдар — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Яроменак Уладзімір — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Кіркевіч Алесь — на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Вінаградаў Павел — на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Гнедчык Алег — на 3,5 года пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Пратасеня Андрэй — на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Дрозд Зміцер — на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Хамічэнка Уладзімір — на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.


Федаркевіч Андрэй — на 3,5 года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.


Даронін Дзмітрый — на 3,5 года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.


Лобан Уладзімір — на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.


Сакрэт Яўген — на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.


Казакоў Сяргей — на 3 гады пазбаўлення волі ў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.


Бандарэнка Зміцер — на 2 гады калоніі агульнага рэжыму.


Мядзведзь Зміцер — на 3 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу.


Брэус Арцём — штраф памерам 300 базавых велічынь.


Гапонаў Іван — штраф памерам 300 базавых велічынь.

**Па ч. 1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх) асуджаныя:**

Севярынец Павал на 3 гады абмежавання волі з накіраваннем у месцы адбывання пакарання адкрытага тыпу («хімія»).

Халіп Ірына на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады.

Някляеў Уладзімір на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады.

Марцалеў Сяргей на 2 гады ўмоўна.

Вазняк Сяргей на 2 гады ўмоўна.

Фядута Аляксандр на 2 гады ўмоўна.

Рымашэўскі Віталь на 2 гады ўмоўна.

Дзмітрыеў Андрэй на 2 гады ўмоўна.

Палажанка Наста на 1 год умоўна.

**За злоснае хуліганства былі асуджаныя арыштаваныя напярэдадні Плошчы:**

Лобаў Эдуард на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Дашкевіч Зміцер на 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Адкладзенае (нібы ў сувязі з хваробай суддзі) вынясенне прысуду наступным палітвязням:**

Статкевіч Мікалай.
Ус Дзмітрый.
Класкоўскі Аляксандр.
Буланаў Дзмітрый.
Грыбкоў Арцём.
Пазняк Андрэй.
Квяткевіч Аляксандр.

18 мая пракурор Ленінскага суда запатрабаваў засудзіць экс-кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса на 8 і 7 гадоў калоніі (Статкевіча просяць асудзіць на найдаўжэйшы тэрмін спасярод усіх арыштаваных па справе Плошчы), Аляксандра Класкоўскага (па сукупнасці злачынстваў) — да васьмі з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму; Аляксандра Квяткевіча, Дзмітрыя Буланава, Андрэя Пазняка і Арцёма Грыбкова — да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Дзмітрыя Уса было прапанавана ўзяць пад варту проста ў зале суда, паколькі ён не знаходзіўся ў турме.

**Асуджаны раней за захоўванне патронаў — а на самой справе, на думку праваабаронцаў, пакараны за палітычную дзейнасць:**

Аўтуховіч Мікалай, адбывае пакаранне ў калоніі ў Івацэвічах.

**Абвінавачаныя па крымінальнай справе «Масавыя беспарадкі», якія яшчэ не асуджаныя:**

Арастовіч Аляксандр вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Кобец Уладзімір вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Корбан Алег вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Лябедзька Анатоль вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Паўлаў Анатоль вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Наталля Радзіна ўцякла за межы краіны.

Алесь Міхалевіч уцёк за межы краіны, знаходзіцца ў Чэхіі.

**Падазраваныя па крымінальнай справе «Масавыя беспарадкі»:**

Апішаў Дзмітрый.
Васілеўскі Аляксандр.
Гусельцаў Дзяніс.
Давыдзенка Антон.
Каваленка Усевалад — магчымы падазраваны.
Кастусёў Рыгор.
Клюеў Сяргей.
Красной Мікіта — знаходзіцца за межамі Беларусі.
Мікалаеў Андрэй.
Навіцкі Леанід — знаходзіцца за межамі Беларусі.
Шарстоў Аляксей.
Шыдлоўскі Дзяніс.

**Асуджаныя па справе за падпал дзвярэй Бабруйскага КДБ:**

Яўген Васьковіч, Павел Сырамолатаў, Арцём Пракапенка — усе на сем гадоў калоніі строгага рэжыму.


**Павал Севярынец.**


**Ірына Халіп.**


**Мікалай Статкевіч.**


**Дзмітрый Ус.**


**Мікалай Аўтуховіч.**

# Сусветны рэкорд дэвальвацыі

Працяг са старонкі 1.

### Вяртанне на месяц назад, але з іншым курсам

Прэс-рэліз Нацбанка ўсталяваў новыя правілы гульні, а калі дакладней — то вярнуўся да старых, месячнай даўніны. Курс валюты ў абменніках будзе выстаўляцца на ўзроўні «плюс/мінус 2%» ад афіцыйнага курса, але Нацбанк не збіраецца падтрымліваць банкі далярамі і еўра. У выніку ў аўторак валюта ў абменніках усё адно не з'явілася.

12-працэнтны калідор ваганняў кошыка валют застаецца нібыта непарушным. Але цяпер за пункт адліку бярэцца 24 мая 2011 года, а не 31 снежня 2010 года.

Нарэшце, біржа працуе па-ранейшаму, з прыярытэтам на продаж валюты імпарцёрам медыкаментаў і для аплаты за газ. Свабодныя таргі адбывацца не будуць, а значыцца, курс будзе вызначацца не рынкам, а дзяржавай.

### Рэакцыя эканамістаў — дэвальвацыя замалая

Незалежны эканаміст Сяргей Чалы мяркуе, што рэальны курс складае каля 6000 рублёў за даляр, як гэта было на міжбанкаўскім рынку ў апошні дзень перад рашэннем Нацбанка.

Леаніду Заіку, кіраўніку аналітычнага цэнтра «Стратэгія», верыць цяжка. Яшчэ тыдзень таму ён раіў беларусам найхутчэй здаваць валюту ў абменнік, пакуль курс высокі, — маўляў, курс даляра можа спыніцца на ўзроўні 3300 рублёў.

Цяпер ён папярэджвае, што самае страшнае, — калі насельніцтва пачне здымаць грошы з дэпазітаў, што падкрэсліць усеагульную няўпэўненасць ва ўласнай валюце.

З людзей, набліжаных да ўлады, адгукнуўся толькі дырэктар Парку высокіх тэхналогій Валер Цапкала, які прызнаў, што прычынай фактычнага дэфолту сталі дзеянні ўладаў. «Нацбанк паспрабаваў схаваць рэальнае становішча спраў у банкаўскай сферы, уводзячы бізнэс-супольнасць і насельніцтва ў няведанне адносна сваіх дзеянняў і намераў», — напісаў ён у сваім блогу.

Ніводзін з чыноўнікаў дэвальвацыю так і не пракаментаваў.

**Яўген Васількоў**



PHOTO.BYMEDIA.NET

23 мая перад запраўкамі выцягнуліся даўжэзныя чэргі.

**Афіцыйныя курсы валют (на 25.05.2011)**

Даляр — 4931

Еўра — 6933

Расійскі рубель — 173

Злоты — 1758

Грыўня — 616

Літ — 2011

## Бензін +20%, дызель +24%

Хвост адсякуць за некалькі прыёмаў.

У дзень дэвальвацыі канцэрн «Белнафтахім» абвесціў аб росце розьнічных цэн на нафтапрадукты.

Цяпер цана 1 літра складзе:
Н-80 — 3850 рублёў (рост цаны на 22,2%):
АІ-92 — 3950 рублёў (рост на 19,7%):
АІ-95 — 4350 рублёў (рост на 16%):
дызельнага паліва — 3900 рублёў (рост на 23,8%).

Падаражанне, відавочна, не апошняе, бо фактычна літр бензіну зараз каштуе $0,8, а да валютнага крызісу каштаваў каля $1.

**СГ**

**Чорны аўторак**

Расійскі Першы канал назваў падзеі ў Беларусі «чорным аўторкам беларускай эканомікі».

## Генпракуратура загадала абмежаваць доступ да Prokopovi.ch для дзяржустаноў




Генпракуратура шукае стваральнікаў папулярнага ў Беларусі сайта нелегальнага абмену валют, паведаміў 19 мая журналістам начальнік упраўлення Генпракуратуры па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Павал Радзівонаў.

Паводле яго слоў, Генпракуратура вынесла пастанову аб абмежаванні доступу да інтэрнэт-рэсурсу, які прапагандуе дзейнасць па незаконным абмене валюты.

Як заявіў прадстаўнік Генпракуратуры, на сайце ўстанаўліваюцца «адвольныя курсы абмену валюты і канверсіі, якія не адпавядаюць курсам абмену ў банках».

Ён адзначыў, што рэклама магчымых валютных аперацый прыцягвае злачынцаў і асобы, якія карыстаюцца паслугамі такіх сайтаў, могуць стаць аб'ектам злачынных замахаў ашуканцаў. Радзівонаў таксама не выключыў гвалтоўных дзеянняў у адносінах да фізічных асоб. Прадстаўнік Генпракуратуры паведаміў, што ўжо заведзена крымінальная справа ў дачыненні да маладога чалавека, які з выкарыстаннем інтэрнэту ашуканскім шляхам завалодаў 66 млн беларускіх рублёў.

Паводле Радзівонава, Генпракуратура заклікае «ўстрымацца ад незаконных здзелак па абмене валюты, строга выконваць заканадаўства, не даючы магчымасці зрабіць сябе ахвярамі злачынцаў».

Пазней пракуратура загадала таксама парталу tut.by закрыць аналагічны абменны рэсурс.

Апошнія тыдні сайт Prokopovi.ch стаў адным з самых папулярных у белнэце. Штодзень яго наведваюць з 40 — 50 000 камп'ютараў. (звесткі лічыльніка Akavita.by). Гэта вывела сайт на 12-ю пазіцыю ў агульным рэйтынгу беларускіх рэсурсаў.

Сайт выкарыстоўваецца беларусамі ў якасці своеасаблівай электроннай біржы — людзі дамаўляюцца паміж сабой наконт куплі/продажу валюты і ўдвух ідуць у банк.

Першы прадае валюту па афіцыйным курсе, другі адразу ж яе купляе, а пасля за межамі абменніка даплачвае першаму розніцу ў афіцыйным і рэальным курсе.

Так і законы фармальна не парушаюцца, і людзі здабываюць сабе дэфіцытную валюту.

Пра нязвыклы сайт напісалі СМІ розных краін: такога цуду нідзе на свеце больш няма.

Акрамя платформы для абменных аперацый, на старонцы ёсць і навінная частка. Фэйсам самага неардынарнага сайта стаў самы неардынарны банкір: Пятро Пятровіч Пракаповіч.

Сайт стварыў звычайны малады праграмер, пакуль ніякіх прыбыткаў ён не мае і захоўвае ананімнасць.

**Сяргей Гезгала**

## Заснавальнік Prokopovi.ch: «Раю мяняць уладу, а там і да валюты справа дойдзе»

«Пракаповіч. Пётр Пятровіч. Першы ў свеце электронны пункт наяўнага валютнага абмену» — пра сайт з такой назвай напісалі самыя папулярныя выданні свету. Ствараючы жартаўлівы праект, беларускі праграміст здолеў у адзіночку замяніць Нацбанк і дапамагчы тысячам суайчыннікаў узаемавыгадна абмяняць валюту. $20 мільёнаў за мінулы тыдзень — такі абарот электроннага «Пракаповіча».

Такі поспех не спадабаўся Генеральнай пракуратуры, якая абяцала знайсці і пакараць праграміста Пецю. Пакуль жа сайт Prokopovi.ch трапіў у спіс забароненых для дзяржаўных установ, нароўні з Charter97.org.

Заснавальнік электроннага абменніка Prokopovi.ch — «называйце мяне проста Пеця» — пракаментаваў для nn.by сітуацыю з магчымай забаронай доступу да сайта.

**«Наша Ніва»: Ці шукалі вас прадстаўнікі пракуратуры ці сілавых ведамстваў?**

**Prokopovi.ch:** Аніякіх кантактаў з іх боку ніколі не было.

**«НН»: Якія тэхнічныя меры будуць прымацца вамі для безперабойнай працы сайта?**

**ПП:** Будзем ствараць люстэркі, мяняць ай-пі, распаўсюджваць інфармацыю пра ананімайзеры. За намі — дзясяткі тысяч людзей, якім мы патрэбныя. Без бою іх не аддамо.

**«НН»: Калі будзе закрыты доступ да сайта з Беларусі, то як бы вы параілі людзям мяняць валюту?**

**ПП:** Параіў бы мяняць уладу, а там і да валюты справа дойдзе.

**ВН**

КАМЕНТАР

## БТ, АНТ і дзяржпрэса згадалі дэвальвацыю эннай навіной

Вечаровыя выпускі беларускіх навінаў у чарговы раз непрыемна здзівілі сваёй аднолькавасцю.

Навіна пра 55%-ую дэвальвацыю, якая па змаўчанні была найгалоўнай навіной не тое што дня, а нават тыдня, аказалася на задворках увагі навінных выпускаў тэлеканалаў — як Першага, так і АНТ. Візіт Лукашэнкі ў Казахстан, ісландскі вулкан, змены ва ўкраінскім заканадаўстве, вучэнні... Усе гэтыя тэмы падаліся кіраўніцтву каналаў важнейшымі за абвал рубля.

Калі чарга ўсё ж дайшла да абвалу беларускага рубля, дыктары бадзёрымі галасамі зачыталі новыя курсы і вытрымкі з прэс-рэліза, распаўсюджанага Нацбанкам... і перайшлі да наступнага сюжэта.

У жывы эфір ці хаця б проста на інтэрв'ю да дзяржаўных журналістаў не выйшаў ніхто — ні прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які нібыта выпадкова апынуўся у Казахстане, ні прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, які абяцаў у панядзелак—аўторак стабілізаваць рынак. Растлумачылі б, колькі цяпер складзе сярэдні заробак беларусаў.

Не з'явіўся старшыня праўлення Нацбанка Пётр Пракаповіч, каб прынародна прызнацца, што яму давялося схлусіць наконт немагчымасці дэвальвацыі.

Мог выйсці хаця б віцэ-прэм'ер Сяргей Румас, які апошнія тыдні выглядаў смялейшым за астатніх чыноўнікаў і падбухторваў Нацбанк на правядзенне дэвальвацыі. Дзе ягоны абяцаны курс 3800–4100 рублёў?

Ад міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Мікалая Русага цяжка было чакаць адэкватнага адказу, але ён мог паўтарыць яшчэ раз, што новы курс даляра — гэта не дэвальвацыя, а цэны ў Беларусі дзівосна нізкія.

Нават гераічны кіраўнік упраўлення Нацбанка Анатоль Драздоў, які дзень за днём апраўдваўся за бяздзеянне свайго кіраўніцтва, і той не палічыў патрэбным пракаментаваць сітуацыю.

Яшчэ раз удакладнім, смеласці і адказнасці пракаментаваць сітуацыю не знайшлося ні ў аднаго чыноўніка.

А сюжэт па АНТ скончыўся карцінкай задаволенай дзяўчыны, якая без усялякай чаргі заходзіць у абменнік і купляе даляры. Лукашэнкаўскія псеўдажурналісты самі пацвердзілі анекдот пра сябе: хацелі б мы жыць у той Беларусі, якую па ТБ паказваюць.

**Віталь Несцераў**

**P. S.** «Советская Белоруссія» за аўторак піша на першай паласе пра Лукашэнку ў Казахстане, фестываль у Канах і вынікі выбараў у Іспаніі. Пра дэвальвацыю — толькі на другой старонцы. Тое самае і «Звязда». Ім гэта не важна.

# Размятай беларускае

Працяг са старонкі 1.

Прадпрыемства было вымушанае выставіць ахову з ліку супрацоўнікаў завода, каб прадухіліць штурм. Эмоцыі ў натоўпе зашкальвалі — ахоўнікі прапускалі ў краму толькі па дзесяць чалавек.

У ЦУМе і ГУМе аддзелы з бытавой тэхнікай апусцелі. «Нічога пад запіс не скажу», — заявіў адзін з кіраўнікоў ЦУМа журналістам «НН». Прадаўцы не паспяваюць выставіць тавар — усё адразу трапляе на склад з пазнакай «прададзена».

Ажыятаж і на мэблю. Сталічны «Дом мэблі», што ля Камароўкі, у выходныя дні быў літаральна заблакаваны грузавікамі і мікрааўтобусамі, у якія людзі грузілі набытыя канапы, шафы і крэслы.

А вось у фірмовай краме «Гарызонта» на Куйбышава ціха. «Вы б тры дні назад прыйшлі — пабачылі б», — паведаміла журналістам «НН» прадавачка. Прычына цішыні ляжыць на паверхні — цэны на некаторыя мадэлі павышаныя ў два разы ў параўнанні з красавіцкімі. Няма ажыятажу і на бытавую тэхніку замежнай вытворчасці — кошты там сталі проста недасягальныя. Імпарцёры закладаюць валютную рызыку.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Калі ажыятаж з набыццём тэхнікі мае пад сабой рацыянальныя прычыны — людзі імкнуцца ўкласці свае ашчаджэнні ў беларускіх рублях, дык ажыятаж вакол солі і воцату можна патлумачыць толькі псіхозам. Людзям шкада сваіх грошай, вось і хапаюць першае-лепшае. Нават у заможнай сталіцы ўзніклі перабоі з гэтымі прадуктамі. Яны вырабляюцца ў краіне, і дэфіцыту ў іх няма, але пытанне з хуткай падвозкай вырашыць цяжка. А вось цукар ужо вярнуўся на паліцы, і па старой цане ў 3600 рублёў. Гэта выключэнне: нават на рынках цэны на прадукты выраслі ў 1,5 — 2 разы.

У лідарах па падаражанні — рыба, кава, гарбата, імпартная бытавая хімія, арэхі. На Камароўцы за кілаграм фісташак і паўкілі распушчальнага «Нэскафэ» просяць фанта-стычныя 100 тысяч рублёў. У правінцыі пакуль старыя цэны сустракаюцца часцей. Гэта выклікала сапраўднае спажывецкае паломніцтва — мінчукі выпраўляюцца ў суседнія райцэнтры па пральны парашок, рыбу і зубную пасту.

Падаражанне — падаражаннем. Але некаторыя тавары, якія закупляліся за валюту, увогуле зніклі. Складана купіць памперсы, дзіцячае харчаванне замежнай вытворчасці. Яны спачатку падаражэлі ў 2—4 разы, а потым і ўвогуле прапалі. А гэта той выпадак, калі поўных беларускіх аналагаў няма. Скажам, не ўсё харчаванне для дзяцей з ваўкавыскага «Беллакта» пасуе для кожнага дзіцяці.

Беларусам варта зацягнуць паясы. Дзяржава жыла не па сродках — зараз за яе расплацімся ўсе.

**Алесь Пілецкі**

# Шоп-туры па Беларусі

**Адзіная перавага пакупак у Дзяржынску — танная рыба.**

Другое вялікае нашэсце (першае было пасля дэвальвацыі пачатку 2009 года) спустошыла сталічныя гіпермаркеты. А што на перыферыі? Карэспандэнт «НН» выправіўся ў шоп-тур у суседні з Мінскам райцэнтр — Дзяржынск.

Канчатковая мэта падарожжа — трохпавярховы «Дом гандлю» на дзяржынскай вуліцы Маркса. Абменнік «Беларусбанка» і чарга «табурэтнікаў» дапаўнялі звыклую карціну суровага сацыялістычнага рэалізму пачатку 2011 года.

### Без людзей, бо і без тавару

На дзіва, у панядзелак а 9-й раніцы каля дзвярэй «Дома гандлю» не стаяў ваяўніча настроены натоўп, гатовы змятаць усю айчынную бытавую тэхніку на сваім шляху. Прычына выявілася праз некалькі хвілін, дастаткова было ўзняцца на трэці паверх. Буйнагабарытнай тэхнікі не было. Пасярод залы адзінока стаялі нікому не патрэбныя мікрахвалёўкі па паўмільёна рублёў кожная, а па баках былі расстаўленыя недараспрададзеныя чайнікі. На паліцах з тэлевізарамі засталіся мадэлі з малымі экранамі, ды і сярод іх хапала экзэмпляраў з цэтлікамі «прададзена». «І даўно ў вас так?» — пытаюся ў прадавачкі. Тая зрабіла здзіўленыя вочы: «Яшчэ перад выходнымі ўсё параскуплівалі...» Да Дзяржынска паніка даходзіць праз два-тры дні пасля Мінска, расказала яна. Значыцца, калі і ехаць у райцэнтр на закупы, то аператыўна.




ЯЎГЕН ВАСІЛЬКОЎ

### Рыбны рай

Яшчэ адзін аддзел, цікавы для ахвотных аддаць свае рублёвыя ашчаджэнні, — мэбля. У Дзяржынску спальні і шафы знаходзяцца на першым паверсе. Хутчэй — знаходзіліся. Бо раскупілі не толькі недарагую касаўскую мэблю, але і нашмат даражэйшы за яе «Пінскдрэў». Сумная касірка магла прапанаваць толькі пару сталоў.

Канчатковым пунктам імправізаванай экскурсіі быў універсам на першым паверсе. Яшчэ вечарам у нядзелю ён выдзяляўся фантастычна нізкімі цэнамі на рыбу, прынамсі, у параўнанні з Мінскам.

Цэны на іншыя тавары адрозніваліся ад сталіцы нямоцна — больш спаліш бензіну на дарогу, — але рыба!.. Напрыклад, скумбрыю раздавалі па 13 тысяч рублёў за кілаграм. Прытым што ў Мінску цана ўжо дайшла да 25 тысяч. Дзяржынскі кальмар каштаваў 18 тысяч, масляная рыба — 26 тысяч, акула-прывід і недарэзкі сёмгі — па 12 з паловай тысяч рублёў. Але абсалютным хітом продажаў была камбала. Ці то па няўважлівасці супрацоўнікаў універсама, ці то праз шэрасць паставак, але гэтая пляскатая рыба каштавала 6 490 рублёў за кілаграм! У нядзелю гэта выклікала шок нават у касірак, якія недаверліва ўглядаліся ў цэннік — можа, не 6 тысяч, а 60? Ці хаця б 16...

### Рай на пераўліку

...У панядзелак раніцай у дзверы ўніверсама адчайна малаціў ключом пажылы мужчына: «Што такое? Чаму яны не працуюць?» Гандлёвая зала была зачыненая на ўсе замкі і нібыта нават падпёртая з сярэдзіны. «Дастаў гэты бардак! Дзе адміністрацыя?» — усё абураўся няўдачлівы пакупнік, марна прыцягваючы ўвагу прадавачак, якія ляніва пераклейвалі цэннікі на касе. «А ты іх сфатаграфуй!» — прапанаваў ён. Адзінае, чаго дасягнуў мужчына, — касірка моўчкі прыляпіла на адваротны бок дзвярэй таблічку: «Універсам не працуе па тэхнічных прычынах». Рыбны рай зачыніўся.

**Яўген Васількоў,**
**Мінск—Дзяржынск**

# Прыватызацыя — зараз, грошы — пасля

**З анансаваных Лукашэнкам $6 млрд Беларусь атрымае толькі мільярд, і тое не раней за сярэдзіну чэрвеня.**

Міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын абмаляваў, на якіх умовах Беларусь можа атрымаць стабілізацыйны крэдыт. Ніякай канкрэтыкі пакуль няма, але ход перамоваў паміж прэм'ер-міністрамі краінаў Міхаілам Мясніковічам і Уладзімірам Пуціным паказаў — аддаваць давядзецца шмат.

«Умовай прадастаўлення Беларусі крэдыту на тры гады ў памеры $3 мільярдаў стане зацвярджэнне трохгадовай праграмы прыватызацыі», — заявіў Кудрын. Паводле яго ацэнкі, аб'ём рэалізацыі дзяржмаёмасці павінен скласці не менш за $7,5–9 мільярдаў. Адзін з першых прэтэндэнтаў на продаж — «Белтрансгаз». Па словах Міхаіла Мясніковіча, Расія гатовая выкупіць беларускія 50% акцый за $2,5 мільярда. Наконт іншых прадпрыемстваў пэўнасці яшчэ менш. Невядомы і час продажу.

Такім чынам, з анансаваных Лукашэнкам $6 мільярдаў у Беларусі застаецца магчымасць атрымаць у найбліжэйшы час толькі $1 мільярд, і тое не раней за сярэдзіну чэрвеня. Гэта будзе стабілізацыйны крэдыт ад ЕўрАзЭС.

**ЯВ**

## Аблава на банкаматы

**Беларусы баяцца абмежавання грашовай масы.**

Фота гомельскіх чэргаў ля банкаматаў, зробленыя ў сярэдзіне мінулага тыдня, і чуткі пра абмежаванні на выдачу наяўных рублёў — нібыта не больш за 60 тысяч «у адны рукі» — прывялі да панікі. Беларусы спустошылі банкаматы, чым толькі падагрэлі ажыятаж. «Не хвалюйцеся, беларускія рублі, як і цукар, на складах маюцца ў дастатковай колькасці!» — паспрабаваў супакоіць насельніцтва начальнік упраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоль Драздоў, нагадаўшы, што толькі за красавік маса наяўных рублёў павялічылася больш чым на 20%. Маўляў, хопіць усім.

Зрэшты, дыму без агню не бывае — некаторыя банкі ўсё ж увялі абмежаванні. Напрыклад, уладальнікі картак «Тэхнабанка» могуць зняць у суткі не больш за мільён рублёў.

**ЯВ**



## Сцісла

• **Новыя цэны на нерухомасць.** У адной з першых праектныхдэкларацый, выдадзеных пасля пачатку валютнага крызісу, указана цана квадратнага метра — 11 млн рублёў за кватэру ў спальным раёне. Дом якасны — каркаснаманалітны, але да валютнага крызісу кватэры ў такіх дамах каштавалі 3,5–4 млн за квадратны метр.

• **Падаражалі маршруткі і таксі.** У Мінску вырас кошт транспартных паслуг. Праезд у маршрутным таксі цяпер каштуе 2700 рублёў замест 2500 рублёў. А вось звычайныя таксі падаражалі яшчэ да абвяшчэння дэвальвацыі. Цяпер кошт праезду 1 км складае 1300-1800 рублёў. Раней існавалі прапановы па 1000 рублёў за кіламетр.

**ЯВ**

# Міністр Русы: Нашы цэны невысокія



**Міхаіл Русы**

міністр сельскай гаспадаркі і харчавання. Быў міністрам з 2001 да 2003, пасля чаго звольнены ўказам прэзідэнта за «незабеспячэнне поўнай і своечасовай выплаты зарплаты работнікам аграпрамысловага комплексу рэспублікі,... а таксама за фальсіфікацыю справаздачных дадзеных па гэтых пытаннях». А пасля пабыў дэпутатам і вярнуўся на тую самую пасаду.

### Можа быць, у міністраў ёсць свае магазіны?

Беларускі міністр Міхаіл Русы стаў адным з самых запамінальных чыноўнікаў на пасяджэнні Рады кіраўнікоў урадаў у СНД. Ягоныя адказы на пытанні журналістаў выклікалі ажыўленне.

«Беларускі гарошак каштуе 1400 рублёў», — заявіў Міхаіл Русы. Да прыкладу, у адной з самых недарагіх крам, «Еўраопце», яшчэ тыдзень таму паўлітровы слоік каштаваў мінімум 2380 рублёў.

«Чаму беларускія памідоры даражэйшыя за імпартныя? — пацікавіліся журналісты. «Калі іспанскі памідор вырас на сонцы, то ён таннейшы за цяплічны беларускі. Адпускная цана ў нас складае 8 тысяч рублёў, — упэўнена вяшчаў міністр. — Знайдзіце мне іспанскія памідоры па 8 тысяч!»

Але асабліва ўдаўся міністру «мясны пасаж». «Я лічу, што нашыя цэны невысокія. Мяса — 12 тысяч!» — заявіў ён. Журналісты зайшлі ў магазін «Чкалаўскі», які міністр згадаў, і сфатаграфавалі цэннікі. Самае таннае мяса — грудзінка амаль за 15 тысяч. І тое, называць гэтае сала мясам як мінімум няпраўдзіва.

Магчыма, міністр меў на ўвазе закупныя цэны?

Што да «нізкіх цэн», то найлепш праілюструе сітуацыю параўнанне цэн у Беларусі і Польшчы. Удакладнім, што сярэдні заробак у нашай краіне складае $317, а ў суседзяў — у чатыры разы больш, $1260.

**Яўген Васількоў**

**Для параўнання:**

| | Гіпермаркет Tesco, Беласток | Гіпермаркет Еўраопт, Мінск |
|---|---|---|
| Свініна | $4,64 | $4,76 |
| Памідоры | $1,95 | $2 |
| Філе | Пангасіус — $3,57 | Хек — $3,85 |

## Цёмная справа Сашы Варламава

### Беларускі мадэльер трапіў у турму.

Арганізатар конкурсаў моды Саша Варламаў абвінавачаны ў прысвойванні 300 мільёнаў рублёў. Перад затрыманнем ён звярнуўся асабіста да прэзідэнта са скаргамі на сваю сітуацыю. Пасля прайшла інфармацыя пра няўдалую спробу суіцыду: дактары «хуткай» выратавалі мадэльера, які наеўся таблетак. Пасля была паездка на паказ у Берлін, і адразу па вяртанні — падпіска пра нявыезд, ператрус і ўзяцце пад варту.

Яго абвінавачваюць у махлярствах з выплатай дзяржаўных камандзіровачных.

Свецкая зорка Элеанора Язерская не верыць, што Варламаў мог красці. «Мне падаецца, што ён проста не разбіраецца ва ўсёй гэтай эканамічнай сферы, таму і выйшла такая сітуацыя. Варламаў вельмі далікатны чалавек, разумны. Толькі што бедны. У яго раней была падтрымка аднаго чалавека «на пасадзе», але пасля яго з той пасады знялі, але падрабязней пра гэта казаць не буду. Цяпер уся надзея на адваката».

**Юрась Ускоў**

**Варламаў падазраецца** ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч. 2 арт. 426 КК (перавышэнне службовых паўнамоцтваў) і ч.3 арт. 210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі).

## Рубель на чорным рынку то расце, то падае

### У аўторак у валютчыкаў курс складаў 5200—6000 за даляр.

Безнаяўныя пазабіржавыя аперацыі практычна спыніліся ў аўторак, пасля таго як Нацбанк устанавіў верхнюю граніцу іх 5030 рублёў. Рэч у тым, што яшчэ ў панядзелак банкі праводзілі гешэфты па 6500—7200, і цяпер прадпрыемствы, уласнікі валюты, проста вычэкваюць.

У той жа час курс даляра на чорным рынку наяўнай валюты ў Мінску злёгку ўзняўся ў аўторак да 5200—6000. У панядзелак ён складаў 5000—5500 (купля) і 5300—5800 (продаж).

У Вільні курс рубля зазнаў аналагічныя тэндэнцыі. Увечары панядзелка даляр у віленскім абменніку Citadele можна было прадаць за 4660 рублёў, а на 19.00 аўторка ўжо за 5070. У той жа час прадавалі даляры ў аўторак за 5990 (увечары панядзелка было 5420 рублёў).




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На мінскіх рынках некаторыя напалоханыя крушэннем рубля гандляры выстаўляюць нават курс 8000—10000. Такім чынам яны схіляюць кліентаў да разліку ў далярах. Але большасць выкарыстоўвае на сёння рэалістычны курс пераліку 5500—6500 за даляр.

Многія эксперты схіляюцца да таго, што Нацбанку не ўдасца ўтрымаць курс на ўзроўні 5000. А ўпартае датрыманне такога курса захавае ранейшы дэфіцыт валюты на легальным рынку і прывядзе да росквіту чорнага рынку.

Рэзкае падзенне рубля на чорным і безнаяўным рынках адбылося паміж 15 і 20 мая, калі стала ясна, што крызіс будзе насіць працяглы характар.

Нацбанк па-ранейшаму не мае сродкаў для валютных інтэрвенцый.

**Сяргей Гезгала**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На ўваходзе на станцыю метро «Кастрычніцказ» адкрылі шыльду памяці ахвяраў тэракта.**

## На імпарт спажывецкіх тавараў увядуць дзяржманаполію?

### Намеснік міністра Тур абвяргае.

У Беларусі чакаецца ўвядзенне дзяржаўнай манаполіі на імпарт спажывецкіх тавараў, паведаміла інфармацыйнае агенцтва «Інтэрфакс-Захад». «Спіс імпарцёраў прынятy», — цытуе яно чыноўніка Мінгарвыканкама. Па яго словах, у пералік імпарцёраў увайшлі «дзяржаўныя аптовыя базы і аптавікі з доляй дзяржавы».

Рней урад Беларусі прыняў пастанову №601, паводле якой Міністэрству гандлю, сумесна з аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам, рэкамендуецца вызначаць аптовых аператараў па забеспячэнні розніцы імпартнымі таварамі, а таксама аб'ёмы і пералік імпартаваных тавараў.

Намеснік міністра эканомікі Беларусі Андрэй Тур абвяргае інфармацыю. Але адзначае, што «будуць прымацца меры антыманапольнага рэагавання». Тур абяцае, што будуць змагацца і са спекулянтамі — маўляў, падстаў для ажыятажнага попыту няма.

**ЯВ**

## Адміністрацыю Віцебскага трактарнага звальняюць пасля тэракта

Па выніках праверкі, якая праводзілася пасля падзеяў 11 красавіка, «на заводзе выяўлены сур'ёзныя недахопы ў ідэалагічнай, выхаваўчай, інфармацыйна-прапагандысцкай рабоце, у кадравай службе». Пра гэта паведаміла «Еўрарадыё» са спасылкай на праваабаронцаў «Вясны».

Як вядома, на гэтым заводзе працаваў падазраваны ў мінскім тэракце.

**СГ**

## Кіраўніка незалежных прафсаюзаў трэслі на мяжы

Старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў вяртаўся з Вільні ў Мінск з міжнароднай сустрэчы. Яго высадзілі з рэйсавага аўтобуса з рэчамі і адправілі на пільны надгляд. Аўтобус паехаў без яго. Пасля надгляду Ярашука адпусцілі.

Пад аналагічную працэдуру ў той жа дзень трапіў незалежны юрыст Юрый Чавусаў. А неўзабаве — таксама грамадскі дзеяч Улад Вялічка.

Можа, у апазіцыянераў шукаюць валюту, якая знікла з абменнікаў? Але тады мусілі б раздзяваць іх на выездзе, а не на ўездзе.

**СГ**

## Сцісла

• **Беларусы ўвезлі больш аўто, чым летась.** За студзень-красавік гэтага года ў Беларусь ўвезена каля 134 тыс. аўтамабіляў, паведамілі мытнікі. За ўвесь мінулы год было ўсяго 190 тыс. машын. Павышаныя, расійскія мыты на ўвоз аўто ўвойдуць у сілу ад 1 ліпеня.

• **Падаражэе мяса.** З 25 мая на 8—10% павышаюцца гранічныя адпускныя цэны на ялавічыну і свініну.

• **Павышаецца цана праезду ў цягніках.** Гэтым разам гаворка пра кошт праезду ў міжнародных цягніках. Гэта звязана з дэвальвацыяй рубля.

• **Чатыры чалавекі загінулі: пажар на мясакансервавым камбінаце ў Оршы.** Паведамленне аб пажары паступіла ў 15.09. У будынку халадзільнай установкі загарэўся ўцяпляльнік на плошчы каля 400 кв. метраў. Пажар згасілі ў 16.26. У сувязі з пагрозай разгерметызацыі халадзільнай установкі пажарным прыйшлося перапампаваць у рэзервуар 20 тон аміяку. На жаль, чатырох рабочых уратаваць не паспелі. Гэта найбуйнейшы пажар на прадпрыемстве пасля трагедыі ў Пінску на «Пінскдрэве».

**СГ**

# «Тэлевяршшыня»: Ярмошына загаварыла пра боязь выйсці на вуліцу

**Уручэнне галоўнай тэлевізійнай прэміі ператварылася ў дзве з паловай гадзіны пафасу.**

У натоўпе ля ўвахода ў Палац Рэспублікі гучыць фраза:

— А навошта кветкі, Дарафеева ж не будзе?

Што не будзе, гэта зразумела. Зразумела нават, хто ў выніку пераможа. Зал Палаца пусты на траціну, і праз гучную сувязь гледачоў заклікаюць спусціцца ў партэр — відаць, тэлекарцінка не ўдалася. Сцэна афармленая пад нешта сярэдняе паміж эстрадным фестывалем 80-х і творчасцю авангардных мастакоў-кубістаў. Што характэрна, большасць беларускіх шоу афармляецца менавіта так.

На пульце гукарэжысёра заўважаю паперку з раскладам мерапрыемтсва. У пачатку пазначана: «Падчас выступу балета D.O.Z.K.I. на экране «Магія тэлебачання». На праверку магія апынулася інсталяцыяй з пямех, якія можна ўбачыць на экране, калі не працуе антэна. Шоу пачалося.

Першае, што трошкі ўзрушыла залу — з'яўленне ў якасці госці Лідзіі Ярмошынай, якая мусіла раскрыць канверт і назваць пераможцу (ёй не прывыкаць) у намінацыі «найлепшая інфармацыйная праграма». У прыватнасці, характарызуючы дзейнасць вышэйзначаных СМІ, Ярмошына сказала: «Менавіта ад інфармацыйных праграм залежыць, альбо ты хочаш жыць у гэтай краіне, альбо баішся схадзіць у булачную».

У выніку перамаглі «Нашы навіны» АНТ — паглядзеўшы іх, ісці ў булачную можна смела. Як не зашкодзіць і прагляд іншых праграм-фіналістаў. Напрыклад, грамадска-палітычнай праграмы «Карціна свету», якую, са словаў іншага спецгосця, галоўнага рэдактара «СБ» Паўла Якубовіча, «глядзець карысна для здароўя і пашырае кругагляд», як і іншыя беларускія аналітычныя праграмы.

Далей цырымонія ішла досыць аднабока: намінацыя, пасля спецыяльны госць, намінанты і ў канцы — пераможца. Агульнае ўражанне: найбольшыя шанцы перамагчы на «Тэлевяршшыні» маюць глабальныя праекты — такія, як серыя фільмаў «Гарады-героі» ці дзіцячае «Еўрабачанне».

А вось беларускасці фіналістам бракуе крытычна: толькі спартыўны каментатар Павел Баранаў (які атрымаў прэмію за каментаванне Кубка УЕФА) звяртаўся да гледачоў па-беларуску. Ён жа падкалоў спецыяльнага госця Мікалая Чаргінца, які падчас уручэння прэміі найлепшаму вядучаму грамадска-палітычнай праграмы сказаў, што нічога цяжкага ў, напрыклад, спартыўным каментатарстве няма. «Што там, казаць «гол» ці «удар пад штангу». Баранаў, які перамог у наступнай па ліку намінацыі, прапанаваў Чаргінцу прыйсці каментаваць матч чэмпіянату Англіі, а заадно растлумачыць, што такое «удар пад штангу», бо сам Баранаў, дасведчаны каментатар, чуе пра такі тэрмін упершыню. Больш ад фіналістаў беларускай мовы мы не чулі.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Выступ балета D.O.Z.K.I. у пачатку задаў тон «Тэлевяршшыні»: прамовы пераможцаў і спецыяльных гасцей чым далей, тым больш нагадвалі адна адну.**

Уручэнне доўжылася дзве гадзіны, а прамовы пераможцаў і спецыяльных гасцей чым далей, тым больш нагадвалі адна адну. Кругі па гэтай стаячай вадзе здолела пусціць толькі Настасся Віннікава, «за якую мы ўсёй краінай перажывалі»: прапаяла I Love Belarus.

На гран-пры «Тэлевяршшыні» было два кандыдаты: «Дзіцячае Еўрабачанне — 2011» і грамадская-культурніцкая акцыя «Беларусь — гэта мы!». Апошняя была прадстаўленая толькі ў гэтай намінацыі. І што таксама не здзівіла нікога — як і летась, атрымалі прыз абедзве перадачы.

Гэты факт яшчэ раз пацвердзіў, што ні «Залатая літара», ні «Тэлевяршшыня», ні іншыя падобныя мерапрыемствы ўжо не могуць нас здзівіць. Не адважваюцца.

**Алесь Сабаленка**

## У Вільні білеты на Стынга каштавалі ў 4 разы менш, чым у «Мінск-Арэне»

Канцэрт Стынга ў Мінску быў адменены «з-за складанай фінансавай сітуацыі» ў краіне. Ён меў адбыцца 27 чэрвеня ў «Мінск-Арэне», але праз дрэнны продаж білетаў агенцтва перанесла яго ў Вільню.

Кошт білетаў у сакавіку на шоу Стынга ў Мінску складаў ад 150 тыс. да 1,5 млн. рублёў. Тады банкі прапаноўвалі за адзін літоўскі літ 1200–1300 беларускіх рублёў. Адпаведна, у Мінску квіток каштаваў ад 130 да 1250 літаў. Самае цікавае, што пасля пераносу канцэрта брытанскага спевака ў Вільню кошт квіткоў знізіўся больш чым у чатыры разы. Ад 30 літаў за самы танны да 400 — за самы дарагі квіток. Такім чынам, нават пры сённяшнім курсе ў 0.35 літоўскага цэнта за тысячу беларускіх рублёў на канцэрт Стынга ў Вільню беларусам будзе з'ездзіць танней, чым схадзіць на яго ж у «Мінск-Арэну».

Нагадаем, Стынг ужо выступаў у «Мінск-Арэне» 18 верасня 2010 года з праграмай Symphonicity. Ён даў амаль трохгадзінны канцэрт, выканаўшы найлепшыя хіты ў новай сімфанічнай аранжыроўцы. Пятнаццацітысячная зала спарткомплексу была практычна поўная.

**АП**

## «Ляпіс Трубяцкой» едзе з канцэртамі вакол Беларусі

Гурт «Ляпіс Трубяцкой», які трапіў у негалосны «чорны спіс» дзеячаў культуры, якім забароненыя публічныя выступы ў Беларусі, працягвае тур у падтрымку альбома «Вясёлыя карцінкі». Гэты тур можа стаць самым маштабным ў гісторыі гурта: за тры месяцы «Ляпісы» далі каля пяцідзесяці канцэртаў, пабываўшы ў розных частках Расіі і Украіны, зазірнуўшы ў Польшчу і Літву.

У бліжэйшы час «Ляпісаў» можна будзе ўбачыць у шэрагу гарадоў непадалёк ад межаў Беларусі. У маі іх чакае Бранск (26), у чэрвені—Чарнігаў (5), Вільня (10) і Талін (11). Квіткі на некаторыя з гэтых выступленняў можна набыць у Мінску і Гомелі.

«Мы вырашылі адкрыць новы агульнаадукацыйны прадмет пад назвай музычная геаграфія і прысвячаем свой чарговы выезд знакамітаму нарвежскаму падарожніку Туру Хейердалу», — адзначыў Сяргей Міхалок.

**СМ**

# Гісторыя Беларусі. Частка XVIII.

## Тураўская зямля: паміж легендарнай гісторыяй і палітычнай залежнасцю

Піша Алег Дзярновіч.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год. № 6, 8, 11, 18.**


Тураўскае замчышча.

Ранняя тураўская гісторыя выглядае не менш загадкава за полацкую таму, што пісьмовых паведамленняў па гісторыі Усходняй Еўропы X—XI стст. мала. Крыніцы, у якіх можна прачытаць пра падзеі ў старажытным Тураве, зусім сціплыя, і яны больш чым на стагоддзе пазнейшыя за першую прыгадку Полацка.

Паводле традыцыйных уяўленняў, якія фармуюцца яшчэ ў школе, поўдзень Беларусі суцэльным масівам займалі дрыгавічы, якія і стварылі другі пасля Полацка цэнтр дзяржаўнасці ў Беларусі. Нешта з гэтых уяўленняў адпавядае сучаснаму бачанню спецыялістаў, але калі іх узяць цалкам, то яны вельмі спрашчаюць рэальную гісторыю.

Найперш застаецца праблема суаднясін Тураўскай зямлі і тэрыторыі племяннога княжання дрыгавічоў. І тут хаваюцца два пытанні. Па-першае, што такое было само гэтае Тураўскае княства? І, па-другое, якую ж тэрыторыю насялялі дрыгавічы?

### Наступ дрыгавічоў

Пачнём з таго, што тэрыторыя рассялення дрыгавічоў не была нязменнай на працягу IX—XII стст. і яна не была такой этнічна аднароднай. Расійскі археолаг і даследчык праблемы балта-славянскага рассялення Валянцін Сядоў, услед за расійскім царкоўным гісторыкам Уладзімірам Завітневічам, абмяжоўваў арэал рассялення дрыгавічоў паўднёва-ўсходняй Беларуссю — ад паўднёвых ускраін Мінска на поўначы і да Мазыра і Рэчыцы на поўдні, ад Рагачова на ўсходзе і да Давыд-Гарадка, Слуцка і Капыля на захадзе. Беларускі даследчык дрыгавіцкіх старажытнасцяў Пятро Лысенка даводзіць тэрыторыю рассялення дрыгавічоў на захадзе да Гродна і Падляшша, а на поўдні далучае значную частку Валыні. Напэўна, мы маем справу з рознымі этапамі рассялення дрыгавічоў і пэўнымі кірункамі іх рассялення.

У сваім развіцці на працягу IX—XI стст. дрыгавічы пасоўваліся з усходняй часткі Прыпяцкай нізіны, ад рэгіёна Турава—Мазыра, на поўнач, да Мінска, і на захад — у Панямонне. У басейне Буга дрыгавічы сутыкнуліся з валынянамі, а ў басейне Наравы, вакол Белавежскай пушчы, — з прасоўваннем на ўсход мазаўшанаў. У Панямонні ж дрыгавічы, як і на паўночных сваіх межах, зноў сустрэліся з крывічамі. Да таго ж, і гэта вельмі важны аспект, славянскія плямёны ў Заходнім Палессі і Панямонні прыходзілі з усходу, поўдня і захаду на тэрыторыю, дзе прысутнічалі балцкія тубыльцы — каменныя курганы Пабужжа пакінулі яцвягі, ці, на пазнейшай стадыі, як пісаў Сядоў, славянізаваныя яцвягі.

Такі этна-племянны экскурс быў патрэбны нам, каб зразумець, якім чынам у далейшым, на працягу XI—XII стст., Верхняе і Сярэдняе Панямонне — з такімі цэнтрамі,


Буйназярністыя бронзавыя пацеркі, якія лічацца адметнасцю дрыгавічоў.

як Гродна, Навагрудак, Слонім, Ваўкавыск, Турыйск — апынецца пад уладай Кіева і нават у складзе Кіеўскай зямлі. Падобнае магло здарыцца дзякуючы каланізацыйнаму руху дрыгавічоў, палітычнай экспансіі Турава, падлеглага Кіеву, а таксама праз паходы кіеўскіх князёў на літву і яцвягаў.

Гэтая ўцягнутасць у арэал уплыву Кіева адыграе ролю і ў далейшым. У XIII ст. Панямонне стане ядром Вялікага Княства Літоўскага. Новая дзяржава выкрышталізуецца з узаемаадносін і супярэчнасцяў з Галіцка-Валынскім княствам, «пераемнікам» Кіева.

Але што ўяўляў з сябе Тураў у X стагоддзі, у часы першых летапісных згадак?


План старажытнага Турава.

### Легендарны заснавальнік

Тураў, другі па старажытнасці горад Беларусі паводле летапісных звестак, прыгадваецца пад 980 г. — на 118 гадоў пазней за першую летапісную фіксацыю Полацка. Але гэтая прыгадка з канца X ст. звязвае Тураў з Полацкам — калі аўтар «Аповесці мінулых часоў» распавядае, як Рагвалод прыйшоў з-за мора ды займеў «сваю воласць» у Полацку, то адначасова летапісец адзначае, што: «а Тур у Тураве, ад яго ж і тураўцы назваліся».

Гэты князь Тур застаецца адной з найбольш загадкавых постацей беларускай гісторыі. Некаторыя даследчыкі (Васіль Тацішчаў, Васіль Ключэўскі, Міхаіл Ціхаміраў) бачылі ў Туры варага, бо ён узгадваецца ў летапісе поруч з Рагвалодам, у гістарычнасці якога мала хто сумняваецца. Да таго ж, у скандынаўскіх мовах вядомае такое імя — Тур. Але іншыя даследчыкі (Аляксей Шахматаў, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Дзмітры Ліхачоў) выказвалі думку, што Тур быў этнонімам тураўцаў, але, напэўна, легендарным. Леанід Аляксееў піша, што «верагодней за ўсё, што на месцы, дзе ў старажытнарускія часы ўзнік горад Тураў, першапачаткова існавала невялікае племя дрыгавічоў, татэмам якога быў тур». «Тур» жа ў старажытнаславянскай мове азначала «дзікі бык». І параўнанне з турам было адным з найбольш пашыраных для ваяроў.

Але ў гісторыі з Рагвалодам і турам варта звярнуць увагу і на архаічную індаеўрапейскую міфалагічную канструкцыю «двух братоў» (а ў адным з летапісаў Тур названы братам Рагвалода) — як Ромул і Рэм засноўваюць Рым, даючы яму імя, так Рагвалод з Турам становяцца заснавальнікамі магутнасці сваіх гарадоў. І Рагвалод, і Тур ууладарваюцца ва ўжо існых гарадах, і так здаецца, што імя горада ў другім выпадку аказваецца сугучным з імем князя.

Але міфалагічны шэраг на гэтым не сканчаецца. З Туравам звязана шырокае кола легендаў. Адно з найбольш падрабязных паданняў апавядае, што Тур прыйшоў з войскам у багатыя дзічынай мясціны і аднойчы заснуў на гары. У сне ён убачыў сябе на паднятым возе, а навокал былі розныя гарады — Тур успрыняў гэта як натхненне на пабудову новага вялікага горада.

Можа падацца нечаканым, але паданні пра заснаванні Турава маюць шмат супольных рысаў з паданнямі пра заснаванне Вільні. Мы бачым аднолькавыя матывы: сон князя Тура на гары падчас палявання, у тым ліку і на тураў. Заснавальнік жа Вільні, князь Гедымін, заснуў на Туравай гары, на якой ён забіў тура. Яму сніўся жалезны воўк, у чэраве якога выла тысяча ваўкоў. Варажбіты сказалі, што гэты сон вяшчуе славу гораду, які князь мусіць заснаваць на гэтым месцы. Сон выканаў функцыю варажбы і акрэсліў лёс будучага горада.

Але багацце міфалагічнага фону вакол Турава толькі заблытвае сітуацыю: немагчыма дакладна вызначыць этымалогію яго назвы.

На Тураўскім гарадзішчы самыя раннія археалагічныя матэрыялы датуюцца канцом X ст. — часамі легендарнага прыходу князя Тура. Але для гэтага ранняга перыяду, як адзначае Леанід Аляксееў, феадальны цэнтр, заснаваны ў Тураве, зыходзячы з археалагічнага матэрыялу, нельга параўноўваць з сучасным яму Полацкам і іншымі паселішчамі, якія знаходзіліся бліжэй да генеральнага шляху з варагаў у грэкі. Знаходкі паказваюць, што гэта быў горад менш эканамічна развіты, больш правінцыйны ў параўнанні нават з Віцебскам і трохі пазней заснаваным Друцкам, а, можа, і Менскам на рацэ Менцы.

Але яму было наканавана яшчэ стаць значным духоўным і адміністратыўным цэнтрам.

**Чаму тураўскага князя Святаполка назвалі Акаянным і пра гісторыю разбурэння тураўскага храма землятрусам чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».**

# Фінал справы Адамовіча

Карупцыя або змаганне Дзяржкантролю з КДБ?

Былы начальнік Управлення па расследаванні злачынстваў Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю (ДФР КДК) асуджаны на тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Прысуд па гучнай крымінальнай справе вынес суд Цэнтральнага раёна Мінска. Як паведамляе «Ежедневнік», апошняе слова Дзмітрыя Адамовіча перад вынясеннем прысуду доўжылася паўтары гадзіны. Былы следчы не пакідаў надзеі пераканаць суддзю ў сваёй невінаватасці.


PHOTO BYMEDIA.NET

Д. Адамовіч **(на фота)** не стаў даваць ацэнку дзеянням следчых і аператыўнікаў КДБ, але акуратна намякнуў на зацікаўленасць следства. «Не хочацца каментаваць, для чаго на следчых дзеяннях маіх калегаў дапытваюць па абставінах атрымання мною хабару, калі на трэці дзень пасля майго затрымання было высветлена — ніякіх хабараў я не атрымліваў».

Адамовіча затрымалі ў жніўні 2010 года, проста на ганку Генпракуратуры. У той дзень яго выклікалі ў КДБ, нібыта для ўзгаднення нейкіх пытанняў. Аднак следчы раптам паехаў у Генпракуратуру, ля якой кадэбісты здолелі яго «перахапіць».

Разам з ім на лаве падсудных, як паведамляла «Белгазета», апынуліся сузаснавальнікі кампаніі ТДА «Геатэхпрагрэс» **Дзмітрый Шадура** і **Аляксандр Нікіфараў,** якіх вінавацілі ў пакушэнні на даванне хабару, пенсіянер МУС **Юрый Кунцэвіч** і яго брат **Дзмітрый** — іх судзілі за пасярэдніцтва ў хабарніцтве, заахвочванне да давання хабару ў буйным памеры. Экс-начальніку Упраўлення прадпрымальніцтва і ліцэнзавання камітэта эканомікі Мінаблвыканкама **Ірыне Ільюкевіч** было выстаўлена абвінавачанне ў заахвочванні да давання хабару, падрыхтоўцы да злоўжывання ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі, крулельстве ў асабліва буйным памеры.

Паводле версіі следства, Шадура і Нікіфараў хацелі пазбегнуць штрафных санкцый падатковых органаў. Яны нібыта даведаліся ад супрацоўнікаў падатковай інспекцыі, што іх прадпрыемству пагражае штраф у 150 млн рублёў. Каб праясніць сітуацыю, прадпрымальнікі звярнуліся да Кунцэвіча, які меў шырокія кантакты ў сілавых структурах. Той, паводле іх словаў, сказаў, што санкцыі складуць нават 700—800 мільёнаў. Аднак чыноўніца гарвыканкама Ільюкевіч, якая паведаміла пра гэта, прапанавала ў абмен на $60 тысяч дамагчыся нулявога балансу і параўнальна невялікага штрафу для «Геатэхпрагрэсу». Аднак і пасля перадачы хабару (на думку следства, $10 тысяч пакінулі сабе Кунцэвічы) фірма атрымала 160 млн штрафу. Потым супраць Шадуры была ўзбуджаная крымінальная справа...

Адамовіча арыштавалі пасля заявы Ільюкевіч пра тое, што $30 тысяч з сумы хабару прызначаліся яму. Яны былі знаёмыя асабіста, сябравалі не адзін год. Аднак цягам усяго працэсу прынцыпова сядалі на процілеглыя канцы лавы падсудных, адзначае «Белгазета».

Давесці, што Адамовіч атрымаў грошы, следства не змагло. Дый Шадура з Нікіфаравым паведамілі, што пра датычнасць да справы фінансавай міліцыі не мелі ўяўлення. А згода выкрываць супрацоўнікаў ДФР, выказаная ў яўцы з павіннай Шадуры, нібыта з'явілася там «не з яго ініцыятывы».

Кіраўніка ДФР вінавацілі ў па артыкулах Крымінальнага кодэкса «падрыхтоўка да злоўжывання ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі» і «бяздзеянне службовай асобы».

Справу супраць сябе Адамовіч тлумачыў як спробу дыскрэдытаваць яго як службовую асобу ДФР.

Суд стаў на бок абвінавачання па ўсіх пунктах, за выключэннем падрыхтоўкі да злоўжывання ўладай.

Дзмітрый Адамовіч быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права пяць гадоў займаць кіроўныя пасады.

Начальнік Упраўлення прадпрымальніцтва і ліцэнзавання Камітэта эканомікі Мінаблвыканкама Ірына Ільюкевіч за хабарніцтва і махлярства асуджаная на 6 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй.

Бізнэсоўцы атрымалі па два з паловай гады «хатняй хіміі». Браты Кунцэвічы — 3 і 3,5 года турмы.

Прысуд яшчэ не ўступіў у законную сілу і будзе абскарджваецца ў вышэйшай інстанцыі.

**Сяргей Мікулевіч**

# Дырэктар прыватнай фірмы павесіўся ў сваім кабінеце

Сталічная фірма працуе на рынку ўжо дзесяць гадоў. Але, паводле супрацоўнікаў, такія цяжкія часы для іх настаюць ўпершыню.

«Мы займаемся пастаўкамі дэталяў для аўтамабіляў, усе разлікі — валютныя. Месяц таму над фірмаю навісла пагроза закрыцця. Дырэктар вымушаны быў адправіць палову калектыву ў адпачынак за свой кошт. Але даляр працягвае расці, і такі крок не выратаваў фірму», — кажа галоўны бухгалтар Таццяна Л.

Над кампаніяй навісла пагроза закрыцця, дырэктар меў некалькі крэдытаў. Ягоныя калегі ды сваякі мяркуюць, што фінансавая сітуацыя сталася прычынаю суіцыду, хоць ніякай перадсмяротнай запіскі пры ім не знайшлі.

Гэта ўжо трэці вядомы выпадак у Беларусі, калі з прычыны эканамічнага крызісу ідуць на крайнія крокі.

Самагубства зафіксаванае таксама ў Барысаве, а ў Гомелі працаўнік забіў свайго начальніка нажом — лічыў, што яму не дадосьць заказаў. Па ўсіх выпадках цяпер завялі крымінальныя справы.

«У грамадстве няма праўдзівай інфармацыі пра тое, што цяпер адбываецца. Людзі не ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, таму наступствы, якія яны ўяўляюць, часта фармуюцца коштам плётак. Гэтыя плёткі распаўсюджваюцца імкліва, часцей за ўсё нават у натоўпе», — кажа псіхолаг Алена Жук. Яна мяркуе, што пакуль урад краіны не пачне адкрыта казаць людзям праўду, сітуацыя будзе толькі пагаршацца.

**belsat.eu**

## Сціслa

**• Пабіліся за тэлевізар.** У краме «Гарызонт» у Гродне два пакупнікі пабіліся за тэлевізар, бо абодва прэтэндавалі на набыццё адной і той жа мадэлі. Разнялі іх змагла толькі міліцыя.

**• Затрыманая 68-гадовая «валютчыца».** У Жабінкаўскім раёне на тэрыторыі санаторыя «Буг» супрацоўнікі міліцыі затрымалі жанчыну, якая займалася «незаконнымі валютнымі аперацыямі». Яна скупляла ў грамадзян Расіі, што адпачывалі тут, расійскія рублі. У яе канфіскавана 755 тыс. беларускіх і 2 тыс. расійскіх рублёў.

**• Пінчукі перайшлі мяжу і абрабавалі магазін ва Украіне.** Двое грамадзян Беларусі былі затрыманыя на Ровеншчыне (Украіна). Яны паспелі абрабаваць краму ў памежнай вёсцы Саламір Зарачанскага раёна, пагражаючы прадавачцы нажом. Калі яны спрабавалі нелегальна вярнуцца ў Беларусь, іх спынілі памежнікі. Ва ўцекачоў былі знойдзеныя тры пакеты з прадуктамі харчавання, гарэлкай, парфумай і біжутэрыяй.

**• Дзеці выпалі на дарогу.** Чатыры машыны сутыкнуліся на трасе Мінск — Нацыянальны аэрапорт «Мінск». Кіроўца «Міцубісі Лансэр» развярнуўся ў недазволеным месцы і сутыкнуўся з аўтамабілем «Фальксваген Шаран», які выкінула на паласу сустрэчнага руху, дзе ён сутыкнуўся з машынамі «Сузукі» і «Пежо». З дзвярэй «Фальксвагена» на дарогу выпаў сын кіроўцы, а таксама 39-гадовая пасажырка з сынам. Яны не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

**• На Маладзечанскай масласырбазе аміяк атруціў людзей.** Уцечка аміяку на халадзільнай установуцы здарылася 21 мая — нечакана прарвала трубу. Чатыры работнікі трапілі ў бальніцу з атручаннем.

**• Трое дзяцей загінулі на пажары.** Трагедыя здарылася ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. У дыме задыхнуліся дзяўчынкі 2004 і 2006 гадоў нараджэння і хлопчык 2008 года нараджэння. Калі хата загарэлася, бацька дзяцей знаходзіўся на працы, маці — у Слоніме. Меркаваная прычына пажару — свавольства дзяцей з агнём.

**• Аўтобус з пасажырамі зваліў некалькі дрэваў.** У Баранавічах разбіўся маршрутны аўтобус з пасажырамі. Кіроўцу стала дрэнна, і ён страціў прытомнасць. Аўтобус з'ехаў з дарогі, знёс некалькі дрэваў і ўрэзаўся ў плот. Пасажыры не пацярпелі.

**• У Баранавічах затрымалі злодзея-эстэта.** 25-гадовы раней судзімы за крадзеж мужчына знёс з чужога па'езда вазон, каб упрыгожыць сваю кватэру. Тое, як незнаёмы малады чалавек кудысьці нясе вазон, убачыла жыхарка дома. Яна ж і паведаміла ў міліцыю. Цяпер яму пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**СМ**

## СПОРТ

**29 мая (нядзеля) у Мінску на стадыёне «Трактар»** пройдзе фінал Кубка Беларусі па футболе. Сустрэнуцца «Нёман» (Гродна) і «Гомель». Пераможца атрымае пуцёўку ў кваліфікацыю Лігі Еўропы. **Пачатак у 16.50.** Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**26 мая ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта Neuro Dubel. **Пачатак а 19-й.**

### Ганна Хітрык

**31 мая у Палацы культуры ветэранаў (вул.Купалы, 21)** — прэзентацыя дэбютнага альбома гурта Sounduk. Гурт стварыла спявачка і акторка Купалаўскага тэатра Ганна Хітрык пасля распаду яе першага праекта «Дзецідзецей». **Пачатак а 19-й.**

### Avenir-Band

**25 мая ў Тэатры беларускай драматургіі (вул.Крапоткіна, 44)** — канцэрт легенды беларускага джаза Avenir-Band. У праграме — класічныя джазавыя кампазіцыі 1950-х. **Пачатак а 19-й.**

### Квартэт Уладзіміра Міхновіча

**25 мая ў «Графіці»** — джазавы квартэт саксафаніста і піяніста Уладзіміра Міхновіча. **Пачатак а 19-й.**

### Томас Андэрс

**25 мая ў 19.00 у мінскім Палацы спорту** выступіць спявак Томас Андэрс (экс-Modern Talking) з прэзентацыяй новага сольнага альбома Strong. Альбом вытрыманы ў лёгкім танцавальным стылі, уключае ў сябе і старыя хіты Stay With Me і Why Do You Cry. Пік папулярнасці Modern Talking прыпаў на сярэдзіну 80-х.

### Korn у Мінску

**26 мая ў мінскім Палацы спорту** зайграе культавы амерыканскі калектыў КоЯн. Канцэрт адбудзецца ў рамках сусветнага турнэ, якое КоЯн арганізавалі ў падтрымку новага альбома КоЯн III: Remember Who You Are. Амерыканскі ню-метал гурт КоЯн з Бэйкерсфілда, штат Каліфорнія. Група лічыцца заснавальнікамі жанру ню-метал. Разам з Deftones і Limp Bizkit яны заклалі асновы музыкі, якая з'яўляецца сумессю гранжа, фанка і груў-метала, да якіх часцяком дадаецца індастрыял і хіп-хоп. Дведкі па тэлефоне касы Палаца спорту: (017) 203-27-33, 203-47-33.

### «Камерата»

**31 мая ў Вялікай зале філармоніі** пройдзе вялікі сольны канцэрт вакальнага гурта «Камерата». **Пачатак а 19-й.** Даведкі: (017) 284-44-33, 284-32-02.

### «Сузор'е»

**31 мая ў кавярні «Лісіная нара» (вул.Каліноўскага, 32)** выступяць дыназаўры беларускага року, група «Сузор'е». Музыкі абяцаюць якасны хард-рок узору 80-х. «Сузор'е» было першым рок-гуртом у Беларусі, які атрымаў статус прафесійнага, запісаў першы ў гісторыі беларускай рок-музыкі магнітаальбом, даў больш за 1500 канцэртаў у розных гарадах СССР.

### «Разбітае сэрца пацана»

**2 чэрвеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** зайграе «Разбітае сэрца пацана» — мінскі гурт з кардэбалетам, які спявае на трасянцы. **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Мамант-2011

**XII фестываль сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант-2011» пройдзе ў Мінску 27—29 мая.** Конкурс праводзіцца ў Мінску ад 1995 года. Асноўнае адрозненне ўсіх конкурсных паказаў «Маманта» у тым, што калекцыя адзення разглядаецца як аб'ект мастацтва, а не прэзентацыя — як перформанс. Падчас фестывалю таксама традыцыйна праходзіць конкурс бодзі-арта. Вядучымі фестывалю будуць спявак Пятро Ялфімаў і віцэ-Міс Мінск 2007 года Кацярына Любчык. Даведкі: (017) 292-68-99.

### Design Фармат

**Ад 25 да 28 мая ў выставачным цэнтры «БелЭкспа» (вул. Купалы, 27)** пройдзе міжнародная спецыялізаваная выстава «Design Фармат». Можна будзе пабачыць навіны сучаснага дызайну, даведацца пра вядучых дызайнераў, кампаніі, што працуюць на беларускім і замежным рынку, навучальныя ўстановы, дзе можна навучыцца на дызайнера.

### Прэзентацыя кнігі Сяргея Календы

**26 мая ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37а)** адбудзецца прэзентацыя кнігі кароткай прозы маладога пісьменніка Сяргея Календы «Іржавы пакой з белымі шпалерамі». **Пачатак у 19.00.** Сяргей Календа — пісьменнік, культуролаг. Фіналіст конкурсу маладых літаратараў імя Ларысы Геніюш Беларускага ПЭН-цэнтра. Лаўрэат літаратурнай стыпендыі Friedel-Dicker-Stipendium 2010 — 2011 Веймар (Нямеччына). Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям» (2009), «Казкі: Гісторыі (не) пра нас» (2010).

## ВЫСТАВЫ

### Японская парцаляна — выстава ў падтрымку пацярпелых ад землятрусу

**Да 31 мая ў Музеі гісторыі Мінска (вул.Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Японская парцаляна XVII — пачатку XX стст. у паланцовым аздабленні». Выстава арганізаваная ў падтрымку горада-пабраціма Мінска — Сендая, што пацярпеў ад землятрусу.



### Сучасны польскі жывапіс

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 5 чэрвеня** працуе выстава «Сучасны польскі жывапіс». На выставе прадстаўленыя творы найбольш вядомых мастакоў — выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў у г. Катавіцэ — праф. Яцэка Рыкалы, праф. Казімежа Цесьліка, праф. Багдана Топара.

### Выцінанка

**Да 4 чэрвеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава выцінанкі Надзеі Букі. Вожык на дне бутэлькі, панда з гузікам на пысе, мандарыны на снезе — фантазіі мастачкі, увасобленыя ў творах.

### Кранальная выстава

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) да 18 чэрвеня** працуе выстава скульптуры — «Кранальная выстава». На выставе можна ўбачыць творы Алега Варвашэні, Андрэя Вараб'ёва, Аляксандра Мінькова, Дзмітрыя Аганава, Сяргея Аганава, Андрэя Асташова. Назву выставы трэба разумець літаральна — экспазіцыя павінна пашырыць межы ўяўленняў аб класічным музеі, дзе зазвычай забаронена датыкацца да экспанатаў.

### Дымкі

**У Доме прыроды (вул.Багдановіча, 9а)** працуе мастацкая выстава «Дымкі» Алены Хатэнка. На выставе прадстаўлена звыш 70 яе прац, стыль іх выканання ўнікальны і каларытны.

### Вайна вачыма Льва Барадуліна

**Да 2 чэрвеня ў Музеі ВАВ на Кастрычніцкай плошчы** — выстава работ з асабістай калекцыі Аляксандра і Льва Барадуліных — найбуйнейшай у свеце калекцыі класічнай савецкай фатаграфіі.

### У гонар Генрыка Сянкевіча

**У бібліятэцы імя Якуба Коласа НАНБ (вул.Сурганава, 15)** працуе выстава «Летапісец гісторыі Польшчы (да 165-годдзя з дня нараджэння Г. Сянкевіча)», падрыхтаваная аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску. На выставе экспануюцца выданні 1887–2009 г.

### Выстава афорту

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі да 28 мая** працуе выстава кіеўскай мастачкі Галіны Бадзяковай «Жыць — летуценіць». Бадзякова — прызнаны майстар афорту.




## ТЭАТРЫ

**25 мая**

**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»

**26 мая**

**Лялек** — «Вянчанне»

**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

**27 мая**

**Купалаўскі** — «Вяселле»

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

**Лялек** — «Вянчанне»

**28 мая**

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»

**Лялек** — «Мыйдадзір»

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлерой»

**Купалаўскі** — «Вяселле»

**29 мая**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**30 мая**

**Купалаўскі** — «Гендэльбах»

**Тэатр-студыя кінаактора** — «Майстар і Маргарыта»

**31 мая**

**Сучасны мастацкі тэатр** — «Радня»

**Тэатр-студыя кінаактора** — «Абрабаванне ў поўнач»

## КІНО

### Піраты Карыбскага мора: На дзіўных берагах

**Pirates of the Caribbean: On Stranger Tides**

ЗША, 2011, каляровы, 137 хв, 3D

**Рэжысёр:** Роб Маршал

**Ролі выконваюць:** Джоні Дэп, Пенелопа Круз, Джэфры Раш

**Жанр:** Кінаопера прыгодаў

**Адзнака:** 7 (з 10)

Капітан Джэк Верабей, захоплены былой пасіяй Анжалікай, выпраўляецца на пошукі крыніцы вечнае маладосці. Разам з героямі крыніцу шукаюць канкістадоры і стары «сябра» Вераб'я — аднаногі пірат Барбоса, які перайшоў на службу да англійскага караля.

Чацвёртая частка «Піратаў» — кінаопера прыгодаў, падрадкаваная музыцы Ганса Цымера. Страхалюдстваў і дзівосаў стала меней (хаця стваральнікі радуюць нас звабна-драпежнымі русалкамі). Сюжэт зрабіўся працейшым. Колішняя хуліганская непрычасанасць схавана пад ганаровымі шатамі. Урачыстацькоўныя касцюмы, балюстрады, чысцюткая вайсковая форма, парыкі — менавіта такое аздабленне пасуе операм.

І ў гэтым узнёслым свеце — піраты. Гратэскна-гумарныя жэсты, жарты, экскапада трукаў, каб сцягнуць у караля булачку, харзаграфія фехтавання. Джоні Дэп давёў да геніяльнасці тэхніку развінчанае «піпрацкай» марыянеткі, а Пенелопа Круз ставае яму меладрамна-дасціпную пару.

Але забаўляльная карціна Роба Маршала найбольшую асалоду даставіць гледачам з добрым музычным слыхам.

**Андрэй Расінскі**



# Замак Радзівілаў адчыняецца

Нясвіжскі замак рыхтуецца да афіцыйнага адкрыцця ў ліпені.

Цяпер спецыялісты займаюцца высокамастацкімі рэстаўрацыйнымі работамі — аддзелкай інтэр'ераў (ляпніна, пазалота). Плануецца, што замак будзе ўведзены ў эксплуатацыю ў пачатку ліпеня: ён поўнасцю адкрыецца для турыстаў, будзе сфарміравана музейная экспазіцыя, паведамляе БЕЛТА. Асобныя работы па рэстаўрацыі, якія патрабуюць асаблівай увагі (напрыклад, аднаўленне фрэсак і комінаў), прадоўжацца пасля 2011 года.

Акрамя таго, завершана будаўніцтва апартаментнай часткі Нясвіжскага замка: гатэль, кавярня і рэстаран гатовыя прымаць наведвальнікаў, аднак афіцыйна пачнуць працаваць з адкрыццём Нясвіжскага замка.

Рэстаўрацыя Нясвіжскага замка выклікала пярэчанні: было знесенае і наноў збудаванае цэлае крыло, у часе рэстаўрацыі прымяняліся сучасныя матэрыялы.

Нясвіжскі замак некалькі стагоддзяў быў галоўнай рэзідэнцыяй роду Радзівілаў, якіх называлі «некаранаванымі каралямі» Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў закладзены Мікалаем Радзівілам Сіроткам у 1583 годзе, галоўным архітэктарам стаў італьянскі майстар Бернардоні. Згодна з праектам таго часу, замак уяўляў сабой прастакутнік і быў абнесены землянымі валамі з бастыёнамі і вежамі. Нясвіжскі замак будаваўся ў першую чаргу як абарончае збудаванне, якое можа вытрымліваць працяглую аблогу. У вале, які яго акружаў, былі зроблены шматлікія памяшканні для слуг і гаспадарчыя склады, тут таксама размяшчаліся канюшні. Як адзначаюць спецыялісты, палац цікавы не толькі сваімі наземнымі збудаваннямі, але і шматлікімі падваламі, падзямеллямі, склепамі.

**СМ**



## Сапраўдная беларуская кухня

### Пляцкі «ваявода»

Тры літры мукі рашчыніць шклянкай малака і 100 г густых дражджэй. Калі стане расці, уліць тры шклянкі моцна ўзбітых з 400 г цукру жаўткоў, 1,5 шклянкі масла, дадаць карыцы або якіх-небудзь іншых араматычных прыпраў і вымешваць, аж пакуль цеста не пачне адставаць ад рук. Калі другі раз падыдзе, наліць тонка у папяровыя формы, а калі пляцкі падрастуць, паставіць асцярожна ў не занадта гарачую печ. Вымаць з печы трэба таксама асцярожна.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854. Падрыхтавала НБ**

# Віртуальныя турысты

Калі грошай мала, а хочацца пабачыць свет.

Валютны крызіс вясны-2011 прымусіў беларусаў задумацца: ад чаго яны змогуць адмовіцца ў першую чаргу? Многія змірыліся — лета прой-дзе без звыклага, але цяпер недасяжнага замежнага адпачынку. Замест турэцкіх пляжаў іх чакае намёт на Свіцязі, а замест вулачак Парыжа — пратаптаная сцяжынка на лецішча. Але менавіта адтуль, гайдаючыся ў гамаку, самы час выправіцца ў віртуальнае падарожжа па самых прыгожых мясцінах свету.

Сучасныя тэхналогіі дазволяць перанесціся ў трохмерныя Барселону, Нью-Ёрк ці хаця б Маскву. Галоўнае — мець камп'ютар і хуткі інтэрнэт.

«Наша Ніва» прадстаўляе найлепшыя інтэрнэт-сэрвісы віртуальных падарожжаў.

**Google Street View.** Калі спецыяльныя Google-машыны, абсталяваныя панарамныя камерамі, аб'язджалі ЗША, Еўропу і Японію, жыхары маленькіх гарадоў выстаўлялі пікеты пратэсту, ахоўваючы свой маленькі свет. Але супраць глабалізацыі не папрэш. Цяпер пад прыцэлам гуглаўскіх камераў усе людзі могуць знаёміцца з гарадамі свету.

Дастаткова адкрыць сайт maps.google.com, знайсці патрэбны горад і перацягнуць значок з жоўтым чалавечкам, які знаходзіцца каля кнопак набліжэння мапы, на вуліцы горада. І блукаць-блукаць-блукаць...

Трохмернай выявы Мін-ска няма, але паглядзець панарамы, як і ў іншых населеных пунктах краіны, можна без праблем. Дарэчы, майстры з Google нядаўна дадалі дэталізацыі мапе Беларусі — цяпер на экране можна разгледзець кожную вёску краіны, праўда, пакуль яшчэ не ў аб'ёмным фармаце 3D.

**Ovi Maps.** Фінская кампанія Nokia вырашыла не распыляцца на ўвесь свет і сканцэнтравала ўвагу на 20 гарадах планеты. У іх ліку Лондан, Мілан, Хельсінкі, Сан-Францыска, Капенгаген... Мадэлі гарадоў у трохмерным варыянце даступныя на сайце maps.ovi.com/3d. Карыстальнікі могуць маштабаваць выявы, пачынаючы з вышыні птушынага палёту і набліжаючыся да будынкаў і дрэваў. Для прагляду трэба ўсталяваць на камп'ютары спецыяльнае дапаўненне, якое загрузіцца аўтаматычна.

**Interfax.by.** «Глядзі беларускае!» Такім лозунгам можна заахвочваць прагляды пейзажаў айчынных гарадоў. Па адрасах maps.interfax.by/grodno і maps.interfax.by/minsk знахо-дзяцца трохмерныя карты двух беларускіх гарадоў — Гродна і Мінска. Якасць пакуль не ўзорная, але дастатковая для цікавага падарожжа. Варта толькі націснуць на кнопку «Панарама».

**Увага, шалёны трафік!**

Загрузка трохмерных мапаў і мапаў высокай дэталізацыі патрабуе вялікага аб'ёму перададзеных дадзеных. На некаторых тарыфных планах такое падарожжа можа каштаваць як білет да сапраўднай Варшавы!

**Яўген Васількоў**



## Анекдоты



* * *

Па даляры стаяць валютчыкі, а па пыласосы хто?

* * *

Расія гатовая хоць зараз пералічыць нам крэдыт у беларускіх рублях па курсе Нацбанка...

* * *

У мяне дзве навіны — добрая і вельмі добрая. Нам дадуць крэдыт, і наша плошча будзе 17 млн кв. км.

* * *

У Мінску з Пуціна ўзялі падпіску пра неразгалошванне ўмоў расійскага крэдыту.

* * *

Ветэраны, ну прасіце ўжо ўрад пра дэвальвацыю!

* * *

Праз пару месяцаў вы наогул забудзецеся пра гэтыя даляры.

* * *

На Еўрабачанні больш за ўсё шкада 60 еўра, выдаткаваных на шэнген.

* * *

Калі лічыць па курсе Нацбанка, дык наша хакейная зборная выйграла ў Славеніі ў фінале.

* * *

Прэзідэнт назваў «дарэмнымі спробы ўвесці эканамічныя санкцыі ў дачыненні Беларусі». Мы без санкцый самі справімся!

* * *

Насельніцтва скупіла валюту, а народ пакутуе.

* * *

Не верце чуткам! Пакуль іх не абвергнуць афіцыйна.

* * *

Давер да прэзідэнта такі высокі, што калі заўтра ён скажа, што запалкі не падаражэюць, — раскупяць і запалкі.

* * *

І улічыце, калі Еўропа не паспяшаецца з эканамічнымі санкцыямі, ёй давядзецца ратаваць нас крэдытамі!

* * *

Прэзідэнт удала пажартаваў пра $6 млрд ад Расіі, а прэм'ер не разгубіўся і аджартаваўся пра МВФ.

* * *

Расія адмовіла Беларусі ў крэдыце з-за адсутнасці двух паручыцеляў і даведкі аб прыбытках.

* * *

Нацбанк можа столькі рублёў надрукаваць, што даляру мала не падасца.

* * *

Міністр Русы ведае, як лёгка стварыць паніку: «Ды не так моцна рубель беларускі і ўпаў».

* * *

«Дэфіцыту беларускіх рублёў не будзе!» Гэтай фразы Нацбанка так усе чакалі!

* * *

Згодна з указаннем прэзідэнта, краіна будзе жыць па сродках. Праўда, атрыманых ад Расіі і МВФ.

* * *

Самы круты піяр-аддзел ў Беларусі — у сайта prokopovi.ch: яго штаб уключае АНТ і пракуратуру. І гэта толькі пакуль.

* * *

Кур'ёз: кошт чэкавай стужкі на адзін чэк банкамата ў 62% выпадкаў вышэй, чым знятая з банкамата сума.

* * *

Спачатку яны навучыліся абыходзіцца без Нацбанка, потым — без прэзідэнта.

* * *

У Беларусі забаранілі да паказу фільм «Вяселле ў Малінаўцы» за сказ: «Бацька! Грошы!»

* * *

Беларускі Робін Гуд адбіраў валюту ў багатых і здаваў яе бедным.

* * *

Ярмошына пытаецца ў Лукашэнкі:

— Александр Григорьевич, а почему на сайт Prokopovi.ch народу можно заходить, а работникам госструктур — нет?

— Нам, Лідзія Міхайлаўна, этава лучшэ не відзець.

* * *

Група школьнікаў з Ашмянаў выходзіць з цырка. Настаўніца Ядвіга Казіміраўна пытаецца: «Каго б вы, дзеткі, хацелі б наступным разам пабачыць у Мінску?»

— Вось ты, Алесь?

— Я, Ядвіга Казіміраўна, хацеў бы пабачыць дрэсіраваных малпачак.

— А ты, Дамініка?

— Бегемотаў-альбіносаў.

— А ты, Янка?

— А я, Ядвіга Казіміраўна, марскіх коцікаў на верталётах.

* * *

Чым Лукашэнка будзе разлічвацца з Расіяй за $6 млрд крэдыту? Самым дарагім, што ёсць у Беларусі: дзвярыма райаддзелаў КДБ.




**Краіне прыйдзецца зацягнуць паясы. Міністру фінансаў Андрэю Харкаўцу (злева) і віцэ-прэм'еру Сяргею Румасу зрабіць гэта будзе няпроста.**




**У Ісландыі зачынены галоўны міжнародны аэрапорт пасля таго, як пачалося вывяржэнне самага актыўнага вулкана ў краіне — Грымсвотна.**



**Трэнер фінскай хакейнай зборнай Пасі Нурмінен так ударна адзначыў перамогу сваіх хлопцаў на чэмпіянаце свету, што ўпаў, сыходзячы з трапа самалёта. І ледзь не раздушыў чэмпіёнскі кубак.**

## «НН» сто гадоў таму

**Празарокі, Дзісенскі павет.** Народ тут кругом беларускі і мова беларуская чыстая, толькі, як усюды, так і тут, нямала людзей дурных (яны сябе лічаць быццамто за далікатнейшых), якія ўдаюць, што пабеларуску не ўмеюць, а ламаюць свой язык і калечаць польскую або расійскую гутарку.

**«НН». № 21. 1911.**

**Усебеларускі народны сход выявіўся добра прадуманай рэкламнай акцыяй** з удзелам такіх спецыяльна запрошаных зорак, як нобелеўскі лаўрэат родам з Віцебска, сын чыноўніка каланіяльнай адміністрацыі Жарэс Алфёраў, газавы магнат з «Ітэры» Ігар Макараў, мітрапаліт Філарэт і вязень сумлення Павел Барадзін. Праграма развіцця краіны была адзінадушна ўхвалена. БТ здымала гэтую зорную ростань на відэастужку ідэальнай якасці.

**«НН». № 21. 2001.**

Наша Ніва
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7270.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 24.05.2011.
Замова №. 2454.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12